# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 4(87) Красавік 2001 April Год выд. 7.






**Спадар Уладзімер ПЕЛЯСА — знаны беларускі грамадзкі і палітычны дзеяч у ЗША., кнігавыдавец, вялікі патрыёт свайго народу, дзейны працаўнік на ніве беларускага адраджэньня.**

**Паважаны Ўладзімер! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**

## ВЯЛІКДЗЕНЬ *Alleluja*

У хрысьціянскім календары Вялікдзень — рухомае сьвята і штогод прыпадае на пэрыяд з 4-га красавіка па 8-га травеня (мая). Яно адзначаецца ў каталікаў у нядзелю пасьля поўні, якая наступае сьледам за 21 сакавіка — пэрыядам вясеньняга раўнадзенства, а ў праваслаўных вернікаў пасьля 21-га сакавіка адлічваецца ўперад 13 дзён і таксама вызначаецца нядзеля пасьля поўнага месяца.

У пятніцу юдзеі асудзілі Сына Божага на сьмерць праз распяцьце на крыжы. У суботу прыхільнікі Ісуса Хрыста выпрасілі ў юдзейскага цара дазвол на пахаваньне і перанесьлі Яго цела ў пячору, заваліўшы ўваход вялікім каменем. А ў нядзелю, калі Маці Божая са сваімі сяброўкамі прыйшла, каб апрануць свайго Сына-нябожчыка ў пасьмяротнае адзеньне, анёл у белай вопратцы абвясьціў, што Ісус Хрыстос уваскрос. Менавіта таму, як толькі пачынаецца нядзеля (апоўначы з суботы на нядзелю), у цэрквах і касьцёлах робіцца тройчы абыход вакол сьвятыні, пасьля чаго сьвятары ўрачыста абвяшчаюць: "Хрыстос уваскрос!" Са словамі "Хрыстос уваскрос" на працягу нядзелі і наступных двух дзён, сустракаючыся са сваімі знаёмымі, вітаюцца ўсе хрысьціяне, на што адказваюць: "Сапраўды ўваскрос!"

У народным жыцьці гэтае сьвята мае свае адметныя адценьні і каларыт. Напярэдадні да чацьвярга, які называюць 'чысты чацьвер', прыбіралі ў хаце, рабілі рамонт, мыліся ў лазьні. А ў суботу зранку вешалі на вокны новыя фіранкі, на абразы — набожнікі, замешвалі ў дзяжы цеста на пірагі і з абеду распальвалі ў печы. Рыхтавалі сьвяточныя стравы, варылі цыбульнае шалупіньне і фарбавалі ў яго адвары вялікодныя яйкі.

Яйка сымбалізавала сабой, з аднаго боку, сусьветную прастору, нашу галяктыку, а з другога — кругазварот і бясконцасьць жыцьця, пачатак усякага адраджэньня да жыцьця.

Паводле праваслаўных біблейскіх паданьняў, Сьвятая Марыя Магдаліна, даведаўшыся аб пакараньні сьмерцю Ісуса, прынесла рымскаму імпэратару Тыбэрыю чырвонае яйка як знак нянавісьці Сына Божага і сымвалічнае сьведчаньне таго, што з гэтага часу ўвесь Сусьвет нясе на сабе адбітак яго нявінна праліта крыві.

Вечарам людзі ішлі ў храм "на ўсенашную". Ні адна царква не магла ўмясьціць усіх жадаючых, таму людзі зьбіраліся ў бліжэйшых хатах, каб апоўначы выйсьці да храма сустрэць радасны час уваскрасеньня Ісуса Хрыста і прысутнічаць у час вынасу з храма сьвятых харугваў з лікамі сьвятых і ўрачыстага шэсьця.

Набажэнствы ў гэтую ноч заканчваюцца гадзін каля чатырох, пасьля чаго сьвятары асьвячаюць "пасху" — прынесеныя з дому харчы.

У гэтую ноч і тыя, хто заставаўся дома, імкнуліся ня спаць. Запальвалі сьвечкі перад абразамі, маліліся Богу, расказвалі біблейскія паданьні аб жыцьці Хрыста, сьвятых апосталаў і іншых сьвятых.

Зранку накрывалі сьвяточны стол, за які, памаліўшыся Богу, садзіліся, "каб разгавецца".

У. Сысоў.



«...Хрыстос уваскрос! З вялікім сьвятам адвечнага аджыўленьня віншую цябе, Вялікі Беларускі Народ! Гэтай вялікай ночы страсі з сябе ўсю пагарду, увесь бруд, каторым аблепліваюць цябе ад вякоў. Чыста вымыйся, прыбярыся ў найлепшую вопратку, каб хоць на адзін дзень стаў ты роўны з усімі! Ідзі туды, дзе пачуеш гэтыя вялікія словы: Хрыстос уваскрос!» – вітаў нас на пачатку XX стагоддзя Сяргей Палуян.

**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Мы, Беларусы...

Сяргей **Астраўцоў** – "Правінцыя"

1.

Мы пачаліся з Францыска Скарыны, зь першай друкаванай кнігі, і кніга гэтая была біблейская. „БІВЛИЯ РУСКА". Здарылася падзея 6 жніўня 1517 году ва ўтульным і вельмі эўрапейскім горадзе — Празе Чэскай. Пазьней адзін з паэтаў назваў нас „унукамі Скарыны". Хоць дзеці самога першадрукара беларусаў па сабе не пакінулі. Адзін сын загінуў у пажары на Градчанах, сьляды другога згубіліся недзе ў чэскай правінцыі.

Хто ж мы такія, „унукі першадрукара"? Сам ён, у лекарскіх навуках доктар Францыск, называў нас „рускім народам" або „Русьсю". Што да мовы нашай, дык асабіста ён ня быў упэўнены, як яна называецца ў сапраўднасьці. Павагаўшыся, вырашыў нарэшце, што мова гэтая таксама „руская". Кнігі свае ён друкаваў „рускімі словамі, а славенскім языком".

Чытаць іх сёньняшняму чалавеку амаль немагчыма. Надрукаваны яны на „трасянцы": як у экзатычную страву, да царкоўнаславянскай асновы дададзена беларускіх слоў, польскіх, чэскіх. Як ні дзіўна, рэальна дзяржаўнай мовай сёньня якраз і зьяўляецца трасянка. Ёю размаўляе й самае высокае начальства, і простыя грамадзяне. Дзякуй доктару Скарыну са слаўнага места Полацкага!

2.

Скарына называў нас „паспалітым людам", Кастусь Каліноўскі, клічучы змагацца за незалежнасьць, па-баявому называў „дзецюкамі". С. Шушкевіч, калі мы ўжо сталі незалежнымі, — „памяркоўнымі й рахманымі". Астатнія называлі і называюць проста таварышамі, у лепшым разе „саацечаственікамі". У лепшым разе гучыць "гаспадзін", калі ня хочуць шакаваць „таварышам".

Нічога дзіўнага, свайго часу наша эміграцыя перасварылася, бо адны любілі слова „спадар", іншыя прызнавалі толькі „гаспадар". "Гаспадар наш, Жыкгімонт Аўгуст, кароль, вялікі князь" і г.д. — пісалася ў старых хроніках. Хоць у іх можна знайсьці словы „спадарыня" і „спадар" Таварышы, аднак, зноў перамаглі.

Калі-нікалі, яшчэ з савецкіх часоў, ужываецца й слова „пан", але выключна ў дачыненьні да замежнай асобы. Толькі аднойчы мы былі названы панамі. Пісьменьнікам Уладзімерам Караткевічам. „Лі на абрусы, паны-беларусы!" — напісаў ён у вершы, у якім расказваецца пра здымкі фільму „Хрыстос прызямліўся ў Гародні". А як зьнялі зь сябе сярэднявечныя шаты й футраныя шапкі зь пер'ем ды пакінулі здымачную пляцоўку, сталі таварышамі, як і раней.

3.

Першай савецкай сталіцай Беларусі, як вядома, стаў Смаленск, хоць і ненадоўга. Потым быў Мінск, тады Менск, далей бальшавіцкі ўрад Літоўска-Беларускай Рэспублікі пераехаў у Вільню. Урад Беларускай Народнай Рэспублікі адразу асталяваўся менавіта ў Менску. Гэта быў 1918 год. Затым, часова, знаходзіўся ў Вільні й Горадні. У 30-х гадох падумвалі перанесьці савецкую сталіцу далей ад польскай мяжы — у Магілёў. Нават такі самы дом ураду там пабудавалі, крыху зьменшаны. Аднак перадумалі — занадта блізка да Смаленска.

Эмігранцкі ўрад БНР бальшавікам удалося прымусіць скласьці паўнамоцтвы ажно ў Бэрліне. Але надалей усё новыя й новыя старшыні ўраду перадавалі адзін аднаму сымбалічны партфэль прэм'ер-міністра і жылі ў Празе, дзе шукалі, але так і не знайшлі магілу Скарыны, у Парыжы, у ЗША й Канадзе. Аднак, ні Прага, ні Парыж ня сталі нават рэзыдэнцыяй беларускага ўраду: з будынкам, канцылярыяй, аўтамабілем. Ідэя несавецкага тыпу дзяржаўнасьці аказалася законсэрваванай на доўгія гады. Акцыя збору подпісаў за прыняцьце сымбалічнага грамадзянства БНР, праведзеная ў „мэтраполіі", абняла толькі "спадарства".

Краіна Кляновага Лісьця, аднак, падрыхтавала нам яшчэ пару дарункаў. У выглядзе тамтэйшага доктара Стэнлі Скарыны, які размаўляе на цудоўнай польска-расейскай трасянцы і лічыць сябе нашчадкам першадрукара. Другі канадыец — граф Прушынскі — адважна кінуўся ўдзельнічаць у першых прэзыдэнцкіх выбарах, хоць ня меў беларускага грамадзянства. О дзіва! Мясцовую публіку ён таксама зьдзівіў трасянкай накшталт тае ў сп. Стэнлі.

4.

„Адвеку мы спалі, ды нас разбудзілі, сказалі, што трэба рабіць", — сьпявалася ў колішняй беларускай песьні. Потым быў „Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Рады, аднак, так і не зрабіліся сапраўды шчыльнымі. І тады быў напісаны „Магутны Божа". Была яшчэ вельмі мэлядычная „Не загаснуць зоркі ў небе" на словы Янкі Купалы, якая музыкай нагадвае крыху дзяржаўны гімн „Ешчэ Польска не згінэла". Усе гэтыя песьні сьпявала эміграцыя.

У мэтраполіі ніводная зь іх ня стала афіцыйным гімнам. Рэўнасьць да эміграцыі. Праўда, быў абвешчаны конкурс. Разглядаліся і старыя мэлёдыі, і новыя. Нехта ўжо дзяліў у марах ганарары. Прапаноўвалася нават зрабіць дзяржаўным гімнам вядомы палянэз Агінскага з сучасным, адпаведным моманту, тэкстам. Можна было б адначасова някепска патанчыць, паколькі палянэз гэта ўсё ж танец. Хоць у суседзяў палякаў гімнам увогуле зьяўляецца мазурка, але гучыць вельмі па-баявому, калі крочыць ганаровая варта.

Праблема была ў тым, што савецкія беларусы ніколі, апроч застольных, песьняў на роднай мове не сьпявалі. Адно „Касіў Ясь канюшыну!" Савецкі гімн таксама толькі аднойчы быў выкананы дзяржаўным хорам, і фанаграмай потым усю рэспубліку будзіла радыёкропка пасьля шасьці раніцы. Таму простае для ўсіх суседзяў пытаньне з гімнам аказалася для беларусаў невырашальным. Увогуле непатрэбным.

Пакуль спрачалася ў газэтах інтэлігенцыя, на ўрачыстасьцях працягваў гучаць савецкі „Мы, беларусы, з братняю Русьсю" (гэта значыцца, самі з сабой, калі верыць Ф. Скарыну?). І сёньня гучыць, толькі бяз слоў. Нямы гімн. Беларусаў сваім часам "разбудзілі, сказалі, што трэба рабіць", але не сказалі — як.

5.

Над праблемай як назваць беларускую мову і нас саміх пакутавала не адно пакаленьне нашых продкаў. А пытаньне самаідэнтыфікацыі, як вядома, вельмі важнае для любога народу. Сярэднявечны пісьменьнік Саламон Рысінскі, які пісаў на лаціне, сьмела называў сябе Leucorussus, г.зн. беларусам, паколькі „леўкас" — па-грэцку „белы". Гэтаксама ў лацінскіх тэкстах ён называў і нашу краіну Лейкарусіяй. Сёньня гэты забыты наватвор можа нагадаць нам хіба пра „лейкэмію". Але, як і большасьць беларусаў, ён быў непасьлядоўным, пісаў, што яго „нарадзіла на мяжы Масквы" Русь. Мову ён увогуле называў „народнай" або „простай". Давялося чакаць Адама Міцкевіча, які хоць і пагрэбаваў сам беларускай мовай, але пахваліў яе, заехаўшы дзеля гэтага ажно ў Парыж. Маўляў, яна з усіх славянскіх нібыта „самая гарманічная" й "чыстая". Дарэчы, ён даў адначасова тры варыянты яе назвы, напісаўшы: „на беларускай мове, якую называюць русінскай або літоўска-русінскай...". Носьбітаў мовы ён назваў "русінамі", але — неверагодная рэч! — падаў пры гэтым сёньняшнюю лічбу беларусаў — дзесяць мільёнаў чалавек. Дзіўна, з другога боку, што нас так і ня стала больш за столькі часу.

Усе гэтыя ваганьні мелі вынік: цяпер частка беларусаў лічыць сваю мову „сапсаванай рускай", другая частка — „сапсутай польскай". І ніхто зь іх нармальна яе ня ведае. Усе яны нашчадкі Скарыны, які паспрабаваў агульную для шмат якіх славянскіх народаў кніжную — царкоўнаславянскую — мову ўпершыню разбавіць беларускай. Назва краіны, праўда, замацавалася. Носьбіты „трасянкі" тут не спрачаюцца. Аб спробах эміграцыі называць яе Беларутэніяй, Крывіяй або Вялікай Літвой ніхто не ўспамінае.

6.

Нашыя сярэднявечныя паэты карысталіся лацінскай мовай, як і ва ўсёй адукаванай Эўропе. Потым была польская. К. Каліноўскі надрукаваў сваю „Мужыцкую Праўду" па-беларуску, але лацінскім шрыфтам. Першая рэгулярная газэта „Наша Ніва" мела напачатку два тыражы — кірылічны й лацінскі, каб аб'яднаць тых, хто чытаў або „рускімі" або „польскімі" літарамі. Але ў рэшце рэшт нам пакінулі толькі „рускія", каб ня блыталіся і „каб не развучыліся пісаць".

Хоць па-беларуску пісаць па-ранейшаму амаль ніхто ня ўмее. Закон, паводле якога ўсё чынавенства павінна было пайсьці ў „першую клясу", каб нарэшце вывучыць дзяржаўную мову, схавалі ў глыбокую шуфляду. Лацінскі шрыфт — як пропуск у Эўропу — атрымалі малдаване, нават азэрбайджанцы з узбэкамі. Нашыя газэты замест двух шрыфтоў маюць дзьве мовы, зь якіх беларускай часта нададзеная амаль музэйная роля. Музэйная мова, музэйная канстытуцыя, музэйная дзяржаўнасьць. А дзяржаўныя дзеячы — нібы васковыя фігуры з музэю неіснуючай краіны. Самае цікавае, што наведнікі, якія прыйшлі паглядзець на нежывых лялек, таксама быццам экспанаты.

У гэтым музэі, аднак, няма кніжак Скарыны, які спрабаваў навучыць чытаць па-беларуску сваіх землякоў. Раней фаліянты вабілі злодзеяў, як цяпер грошы або ювэлірныя вырабы. На экзэмпляры Скарынавай Бібліі, які захоўваецца ў маскоўскім Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў, ёсьць надпіс: „Книга сия Алексея Петровича Гладкова, а взята книга сия на Литовской земле в граде Гродно 26 августа 7163 (1655) г.".

7.

Беларуская ідэя на пачатку нашага стагодзьдзя была акрэсьленая назвай газэты „Свабода". Але да свабоды было далёка. Рэгулярна газэта пачала выходзіць толькі тады, калі свабода стала рэаліяй, хоць і нядоўгай. Выданьне праіснавала з 1990 да 1997 году. Адбылася падмена паняцьцяў, спрашчэньне, вульгарызацыя. Сёньня на сталічных вуліцах рэклямныя стэнды прапагандуюць цыгарэты словамі „Поўная свабода!"

Раней за сьвяткаваньне народнага сьвята Купальле хапала міліцыя. Цяпер — сьвяткуй колькі хочаш. Але беларусы болей не шукаюць у купальскую ноч кветку шчасьця, яны шукаюць учорашні дзень, змагаюцца за паказчыкі 90-га году, абвешчанага ў дзяржаве ўзорным. Хочуць пабудаваць хоць бы маленькі СССР, двойчы ўвайсьці ў адну раку...

Беларусы — народ бедны. Вядомы стэрэатып і даволі праўдзівы. У вас нічога няма, апроч бульбы й пяску. Праўда, нафта свая была, але хто яе бачыў, калі яе залівалі ў нафтаправод „Дружба"? Цяпер сказалі, што, наадварот, быццам бы, усё сваё ёсць — і алмазы, і золата, і ўранавая руда. Але зноў-ткі ніхто гэтаму ня верыць. Лепей быць беднымі! Таму мы любім тавары па картках, любім стаяць у чэргах. Усёй сьмеласьці хапае толькі на тэлефонны тэрарызм, які набыў нечакана вялікія маштабы.

8.

Выпадкова выкінутыя з гербу серп з молатам па-ранейшаму вісяць у нас над галовамі. Вялізныя, цяжкія. Чалавек пад такім цяжарам адчувае сябе як мінімум няўтульна, няпэўна. Больш за тое, краіна, якая ня мае ні гор, ні выйсьця да мора, заціснутая з усіх бакоў паміж суседзямі, стварае адчуваньне загнанасьці ў кут, пасткі. Тым больш краіна, сшытая зь дзьвюх частак калючым дротам, шнар ад якога не загаіўся дагэтуль.

У другой частцы — заходняй — дагэтуль застаўся гаркавы прысмак таннага тытуню ад пацалунка, атрыманага 17-га верасьня. Сёлета плякат 60-гадовай даўнасьці быў зноў расклеены на платох: удзячны селянін-парабак узасмок цалуе чырвонаармейца-вызваліцеля. Ці, хутчэй, наадварот. Новая мода засталася надоўга. І сёньня

ў тэлевізары мужчыны, асабліва дзяржаўнага рангу, цалуюцца паміж сабой значна часьцей, чымсьці мужчына з жанчынай.

Штосьці ў гэтай дзяржаўнасьці ўвогуле ня так. На першае вока, затрымаліся мы, „народзіны" былі запозьненыя, таму й вынік ня радуе. З другога боку, ідэя ўласнай дзяржаўнасьці сярод беларусаў як бы яшчэ й ня высьпела канчаткова, а значыцца й „народзіны" ў 1991 годзе атрымаліся заўчасныя. Здаецца, і людзі больш-менш як людзі. Мы ж не сланы або чарапахі, у якіх гэты працэс зацягнены. Але застаецца ўражаньне, што „яйка" зь дзяржаўнасьцю так і ня здолелі як мае быць сагрэць і выседзець.

Здаецца, што гэта разумее і самы галоўны беларус. Так часта можна пачуць пра клопат „аб чалавечаскіх яйцах", аб курах-нясушках, аб тым, каб усім хапіла па дзясятку. Адзін пісьменьнік, натхнёны яго публічнымі выказваньнямі наконт яек, пачаў пісаць раман „Яйца". Праўда, ня здолеў закончыць, паколькі яму ў эміграцыі не хапае ўражаньняў ад сапраўдных штодзённых рэалій краіны пад назвай Беларусь.

Яйкі, яйкападобныя істоты й прадметы часта трапляюцца на фантасмагарычных малюнках сярэднявечнага мастака Гіеронімуса Босха. Крытыкі ў адзін голас гавораць, што яйкі — сымбаль сэксуальнага жыцьця, якое вельмі хвалявала нідэрляндзкага мастака. Мужчынскіх пацалункаў на яго карцінах, праўда, няма.

9.

Каму б не хацелася жыць у сапраўднай беларускай дзяржаве — зь беларускай мовай, з дэмакратыяй, з эўрапейскім узроўнем? Нашы папярэднікі таксама хацелі, таксама марылі. Адзін заходнебеларускі мастак маляваў жыцьцё на Сатурне й Юпітэры, выдумляў казкі, у якіх на далёкіх плянэтах жылі беларусы ў нармальнай беларускай краіне.

Гэтая недасяжная мара вымусіла аднаго эмігранта купіць невялікі востраў, каб зрабіць яго для сябе міні-Беларусьсю, дзе заўжды лунае бел-чырвона-белы сьцяг. У Амэрыцы беларусы пабудавалі культурныя цэнтры, назваўшы іх — „Слуцак" і „Полацак".

Неадчуваньне сябе па-сапраўднаму дома выклікае стрэс, у якім мы жывем штодня. Нам хочацца нармальнасьці. Але раптоўна табе прыходзіць ліст з-за мяжы, на якім штэмпэль: „СССР. г. Гродна", дата й зорка зь сярпочкам-малаточкам. Ліст ва ўчорашні дзень, дзе мы жывем. І мы зноў робімся ўнутранымі эмігрантамі, якімі былі да абвяшчэньня незалежнасьці.

Скарына, пакаштаваўшы хлеба радзімы, зноў уцёк у эміграцыю, ужо назаўжды. Але пакінуў нам у якасьці нататкі хрэстаматыйную сэнтэнцыю: „Звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя: птицы, летающие по воздуху, ведают гнезды своя: рыбы, плывущие по морю и в реках, чуют виры своя: пчелы и тым подобная боронять ульев своих. Тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по Бозе, к тому месту великую ласку имають".

10.

Кніга „Хрыстос прызямліўся ў Гародні" заканчваецца вельмі па-беларуску. Пасьля боек і крыві ўсё абціхае й спакайнее. Юду пасылаюць у краму па гарэлку, астатнія, каб не марнаваць часу, бяруць сявенькі, каб засеяць ніву. Разам з усімі Хрыстос узьнімаецца на пагорак, „як на вяршыню зямнога шару". Насустрач яму сьвеціць „нізкае сонца". Нібыта сьпісана з гербу... Сёньня можна было б дадаць: гарэлкі ў краме не аказалася, і Юда пайшоў шукаць самагон, каб не вяртацца з пустымі рукамі.

************************************************

*З нагоды 80-й гадавіны Рыжскай дамовы*

# Нас падзялілі - хто? Чужаніцы...

**Гэтыя словы з верша славутага паэта Якуба Коласа «Беларускаму народу» найбольш адпавядаюць той драматычнай падзеі, што адбылася 80 гадоў таму. 18 сакавіка 1921 года была падпісана Рыжская мірная дамова, якая амаль на два дзесяцігоддзі падзяліла Беларусь на часткі.**

Падпісанне гэтага пагаднення з'явілася вынікам вайны паміж Польшчай і Савецкай Расеяй, у якой першая імкнулася аднавіць сваю тэрыторыю ў межах Рэчы Паспалітай 1772 года, а другая -- распаўсюдзіць свой, гэтым разам ужо бальшавіцкі, уплыў на захад, у Еўропу. Пасля двух годоў цяжкіх ваенных дзеянняў, якія адбываліся ў асноўным на Беларусі і суседняй Украіне, Расея панесла паразу і вымушана была пайсці на цяжкія ўмовы Рыжскай мірнай дамовы.

Звернемся непасрэдна да тэксту пагаднення, якое, між іншым, мела назву «Мирный договор между Россией и Украиной, с одной стороны, и Польшей -- с другой». Паўстае пытанне: чаму дамова, вынікі якой больш за ўсё датычылі нашай Бацькаўшчыны, падпісвалася без удзелу беларускай дэлегацыі? А яна папросту не была дапушчаная да перамоваў, якія праходзілі ў Рызе. РСФСР выступала за сябе і па паўнамоцтвах БССР. Беларускія бальшавікі не маглі ісці насуперак «старэйшым братам» і спадзяваліся на перагляд цяжкіх мірных умоваў у выпадку магчымай перамогі рэвалюцыі ў Польшчы. Таму II Усебеларускі з'езд Саветаў, які праходзіў у Менску 13-17 снежня 1920 года, ратыфікаваў папярэднія ўмовы аб перамір'і ад 12 кастрычніка 1920 года (якія амаль цалкам супадалі з умовамі самой Рыжскай дамовы) і даручыў расейскай дэлегацыі весці перамовы аб устанаўленні межаў, заключэнні міру і дамоўленасцяў, звязаных з ім.

Расейская дэлегацыя «з гонарам» выканала гэтае даручэнне. У выніку правядзення перамоваў усходняя мяжа Польшчы стала пралягаць у некалькіх дзесятках кіламетраў заходней Менска. У складзе Польскай рэспублікі апынулася велізарная частка Беларусі (1/3 тысячы кв. кіламетраў з насельніцтвам каля 4,6 мільёна чалавек) з гарадамі Пінск, Слонім, Баранавічы, Беласток, Навагрудак, Маладзечна, Браслаў ды іншымі. Да гэтага трэба дадаць Віленшчыну і частку Гарадзеншчыны з гарадамі Вільня, Гродна, Ліда, Ашмяны. Гэтыя этнічна беларускія землі, якія РСФСР яшчэ раней, у адпаведнасці з дамовай ад 12 ліпеня 1920 года, аддала Літве, прызнаваліся спрэч-нымі паміж Літвой і Польшчай. Пытанне наконт прыналежнасці гэтых тэрыторыяў да адной ці другой з вышэйзгаданых дзяржаваў падлягала вырашэнню выключна паміж Польскай і Літоўскай рэспублікамі (артыкул III дамовы). Як усім вядома, неўзабаве, Польшча гэтае пытанне вырашыла на сваю карысць.

Такім чынам, усе землі на захад ад усталяванай мяжы (згодна з артыкулам II дамовы) лічыліся польскімі. У адпаведнасці з артыкулам III дамовы, савецкія рэспублікі адмаўляліся ад усялякіх правоў і прэтэнзіяў на гэтыя землі.

Разабраўшыся з тэрыторыяй, трэба было вырашаць лёс людзей, якія там пражывалі. Тут дамова прадугледжвала шырокія сацыяльныя і культурныя правы насельніцтва на далучаных тэрыторыях. Польшча прадастаўляла асобам не польскай нацыя-нальнасці ўсе правы, якія забяспечвалі свабоднае развіццё культуры, мовы, свабоду веравызнання. Беларусы, украінцы і рускія мелі права культываваць сваю мову, арганізоўваць і падтрымліваць свае школы, развіваць сваю культуру і ствараць з гэтай мэтай аб'яднанні ды хаўрусы (артыкул VII). Аднак, прадэкляраваўшы адно, польскія ўлады рабілі зусім іншае. Хутка пачаў ажыццяўляцца курс польскага кіраўніцтва на паланізацыю заходнебеларускіх земляў. Таму беларускі нацыянальны рух разглядаўся як антыдзяржаўны і падвяргаўся праследаванню ды рэпрэсіям. Да пачатаку 30-х гадоў большая частка беларускіх арганізацыяў і школаў была зачыненая альбо разагнаная.

Гэта не адзіныя ўмовы Рыжскай мірнай дамовы, якія не выконваліся адным ці другім бокам. Так, зыходзячы з пагаднення, Польшча і Расея прадаставілі ўзаемныя гарантыі неўмя-шальцтва ва ўнутраныя справы, абавязаліся не падтрымоўваць усялякага роду інтэрвенцыі, а таксама арганізацыі, якія маюць за мэту ўзброеную барацьбу з іншым бокам (артыкул V). Савецкі бок абяцаў вярнуць усю маёмасць, у тым ліку і культурныя каштоўнасці, якія былі вывезеныя ці эвакуяваныя з тэрыторыі Польшчы (у межах 1921 года), пачынаючы з 1772 года (артыкул XI).

Як вядома, абодва да бакі не надта паслядоўна выконвалі гэтыя, а таксама некаторыя іншыя ўмовы пагаднення, імкнуліся абыйсці або зацягнуць іх рэалізацыю. У справе парушэння дамоўленасці большага поспеху дасягнулі саветы, якія 17 верасня 1939 года анулявалі Рыжскую дамову і занялі Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь.

Рыжская мірная дамова 1921 года была ў першую чаргу кампрамісам паміж Польшчай і Савецкай Расеяй і ў ніякім выпадку не адлюстроўвала інтарэсы беларускага народа. Некаторыя лічаць значным станоўчым дасягненнем дамовы прызнанне Польшчай незалежнасці Беларусі (артыкул II). Але на самой справе ні пра якую сапраўдную незалежнасць БССР не магло ісці і размовы. Бо яна знаходзілася пад уплывам Расеі. Да таго ж, тэрыторыя Савецкай Беларусі складала тады 52,4 тысячы квадратных кіламетраў і мела каля 1,5 мільёна жыхароў (Віцебшчына, Гомельшчына, Магілёўшчына і Смаленшчына былі ў 1919 годзе далучаныя да РСФСР). І гэта з амаль 12 мільёнаў беларусаў, што пражывалі ў той час на сваіх этнічных землях.

Як бачым, у 1921 годзе адбылося чарговае ганьбаванне нашай Бацькаўшчыны, зьдзек над беларускім народам.

*Юрый Корыкаў,* "Пагоня"

# Рукі прэч ад Васіля Быкава!

**Мы, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, абураныя нечуваным паклёпам на народнага пісьменніка Васіля Быкава, які прагучаў 17 сакавіка на беларускім тэлебачанні і аўтарскай праграме Юрыя Азаронка «Тайныя спружыны палітыкі».**

Азаронак зняважыў Васіля Быкава. Гнеў яго ў першую чаргу выклікае «непрыкрытая праўда пра вайну» 1941-1945 гадоў, адлюстраванне гэтай вайны, партызанскага руху на Беларусі ў творах Васіля Быкава і Святланы Алексіевіч «без фальшу».

Азаронак ганьбіць Васіля Быкава і за тое, што ён у цяжкі для нашай краіны час стаў побач з тымі, хто выступае за свабоду і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны. «Васіль Быкаў, -- піша Генадзь Бураўкін, -- не зламаўся, не пахіснуўся ў сваёй веры, не кінуў камень у свой народ».

Рукі прэч, паклёпнік, ад нашай нацыянальнай святыні, ад пісьменніка, чые творы даюць уратаванне ўсім людзям планеты, і ў першую чаргу беларусам, заклікаюць да любові ды міласэрнасці. Нам сорамна за тых, хто хоча абразіць лепшага сына нашай Айчыны.

Азаронак у сваім шаленстве нічога новага не сказаў. Выконвае замову тых, хто хоча захаваць усталяваны на Беларусі таталітарны паліцэйскі рэжым. Ён агучыў былых савецкіх генералаў, палкоўнікаў, партработ-нікаў, журналістаў, якія абві-навачваюць Васіля Быкава ў недаацэнцы вялікай Перамогі, у «непатрэбным акцэнтаванні на трагічным».

Былы генерал, старшыня Партыі беларускага патрыятычнага руху Анатоль Баранкевіч, папракае Васіля Быкава за «дэгераізацыю», за тое, што ён «адмовіўся ад сваіх герояў», на патрыятызме якіх выхоўвалася «цэлае пакаленне». Гэта хлусня, помста Васілю Быкаву за праўду.

Мы, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, заклікаем усіх грамадзянаў Рэспублікі Беларусь узняць свой гнеўны голас у абарону вялікага пісьменніка і сына нашай шматпакутнай Радзімы, сумленне нацыі, выказаць спачуванне выгнанніку. Лічым сваім чалавечым і грамадзянскім абавязкам унесці прапанову вылучыць народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава на прысваенне лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Ён заслугоўвае гэтага высокага звання.

Мікола Мельнікаў,
Леанід Закурдаеў,
удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны.

************************************************

**Вельмі**

ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Моцна просім Вас не забывацца пераслаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты.

# Патэнцыял альтэрнатывы расьце

Вынікі чарговага сацыялягічнага дасьледаваньня, якое правёў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў, сьведчаць пра тое, што ў незалежнага кандыдата на прэзыдэнцкіх выбарах ёсьць вялікі шанец на перамогу. Аднак імя самога кандыдата сацыёлягі пакуль не фіксуюць.

Кіраўнік інстытуту Алег Манаеў лічыць, што вынікі апытаньня сьведчаць пра вельмі не стандартную сытуацыю ў грамадзтве. Напрыклад, ужо сёньня, калі яшчэ не абвешчаныя прэзыдэнцкія выбары ў іх гатовыя ўзяць удзел больш за 76% выбаршчыкаў. Яшчэ адна вызначальная рыса сёньняшняй сытуацыі - амаль усе грамадзяне вызначыліся са сваімі сымпатыямі й антыпатыямі адносна цяперашняй улады. Толькі каля 6% рэспандэнтаў ня маюць вызначанага меркаваньня з гэтай нагоды.

Амаль 55% выказваюцца за кардынальную зьмену сёньняшняй палітыкі Лукашэнкі, каля 39% хочуць яе працягу. Больш за 77% рэспандэнтаў выказваюцца за грамадзкі кантроль за праваахоўнымі структурамі. Наагул прагаласаваць падчас выбараў за А.Лукашэнку сёньня пагадзіліся б 45,7% выбарнікаў. На жаль, апазыцыйныя палітыкі ў суме не набіраюць і 20%. Каля 32% рэспандэнтаў не змаглі адказаць на пытаньне, за каго яны хочуць прагаласаваць на прэзыдэнскіх выбарах.

Усе гэтыя лічбы дэманструюць, што беларусы сёньня чакаюць кандыдата, якому б яны змаглі аддаць свае сымпатыі. Дарэчы, ніхто з апазыцыйных кандыдатаў не набірае вялікай колькасьці галасоў рэспандэнтаў. Лідэрам сярод апазыцыянэраў зьяўляецца Міхаіл Чыгір, які мае каля 6,5% галасоў. За ім ідзе Ўладзімер Ганчарык з 3%. Далей Домаш - у яго менш за 2,5%. У Казлоўскага менш за 0,5%. Паміж тым патэнцыял у кандыдата, які складзе альтэрнатыву Лукашэнку ёсьць. Але пакуль ніхто не скарыстаўся сацыяльнай базай, якая хоча зьмены сёньняшняй палітыкі.

---

# Рыгор БАРАДУЛІН: "СЭРЦА НАРОДА — ВІДУШЧАЕ"

***— Рыгор Іванавіч, хачу запытаць у вас, народнага паэта, цудоўнага пісьменніка і проста мудрага чалавека: як асабіста вы пражылі гэтыя дзесяць гадоў незалежнасці і якімі былі гэтыя гады для краіны? Толькі пачніце, калі ласка, з сябе.***

— З сябе? Добра. Праўда, у савецкія часы нас адвучвалі гаварыць ад свайго імя — гаварылі ўсё больш ад імя калектыву...

Для мяне першыя пяць гадоў былі сапраўдным святам. Апалі путы. Пісаць тое, што думаеш, і бачыць гэта надрукаваным — вялікая справа. Хоць і раней я пісаў і гаварыў тое, што думаў, але тут я ўбачыў моладзь, дзеля якой можна жыць і працаваць. Моладзь незашораную, з вольнымі думкамі, з добрым намерам. Моладзь, якая разумее, што яна — не тыя цяляты, якіх падводзяць да ясляў, і ім застаецца толькі чакаць, што ў яслі пакладуць — мурог ці асаку. Моладзь, якая ўсвядоміла: трэба самой знаходзіць сабе ежу, здабываць і хлеб надзённы, і хлеб духоўны...

Ну а потым, дзесьці ў 95-м годзе, нашы палітыканы спахапіліся — пачалі зноў няволіць, надзяваць хамут... Пра наш сённяшні стан скажу прымаўкай: ні ў дзеўках, ні замужам.

***— У адным з вершаў вы ўжылі рыфму "насельніцтва—насенніцтва". Вырасце з насенніцтва дужае калоссе?***

— Маладая рунь ёсць! Бо пяць гадоў сеялася чыстае насенне, правеянае вятрамі волі. І з гэтай руні будзе добры ўраджай. А з ураджая — каравай.

Я, зразумела, рэальна гляджу на наша жыццё. Паветра зараз не вельмі чыстае, у ім — страх. Страх — ён як радыяцыя, яго носам не адчуеш, вокам не ўбачыш, але ён ёсць. Людзі пачынаюць нямець, глохнуць. Шкада....

***— Можна нечаканае пытанне? Калі вас апошнім часам запрашалі на Беларускае тэлебачанне, якое з усіх сродкаў інфармацыі з'яўляецца самым масавым?***

— Дай Бог памяці... У 95-м. Мне было шэсцьдзесят гадоў — вось з нагоды юбілею... А зараз... Я не супраць таго, што мяне не запрашаюць. Нават добра, што мяне там няма. На гэта калгаснае, а часам і карычневатае тэлебачанне я і сам не пайду. Лічыце: у нас з БТ узаемная "любоў". Я яго не бачу, а яно — мяне.

***— Тады, пэўна, вы не бачылі на тым тыдні чарговую перадачу БТ з цыкла "Тайныя пружыны палітыкі" і не чулі, як народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава назвалі літаратурным паліцаем і Васілём, які не помніць раства. Што гэта?!***

— "Беспредел" — як кажуць крымінальшчыкі. Хай ён будзе на сумленні тых, хто робіць свае чорныя справы. Васіль Быкаў — вяршыня. А на вяршыню пляваць немагчыма — усё вяртаецца табе на лоб. Калі ў свеце ведаюць Беларусь з добрага боку — дык дзякуючы Васілю Быкаву. Як можна назваць яго паліцаем, калі ўсю вайну ён "прайшоў у саракапятках"! "Саракапятка" — гармата, якая б'е па танку. А танк — па табе. З "саракапятак" звычайна нават у штрафную роту не пасылалі, бо гэтыя людзі і так былі смяротнікі... Быкаў паранены, зараз цяжка хворы. Яго творчасць, яго свядомасць — гэта сумленне нацыі. А наша тэлебачанне... Ва Ушачах, адкуль я родам, кажуць так: адбяры, Божа, стыд — буду п'ян і сыт.

Але ж "беспредел" скончыцца. Я веру ў народ, у тое, што сэрца яго — відушчае, адрозніць яно праўду ад няпраўды.

***— Верыце?***

— Я лічу так: беларусы — эксперыментальная нацыя ў Бога. Бог правярае нас на жывучасць. Таму ўся гісторыя беларускага народа — пакутная. Але эксперымент, дасьледаванне ніколі не бывае безвы-ніковым. Вынік — будзе. Вынік — дзяржава.

...Розныя гэта паняцці: "насельніцтва", "людзі", "народ". Мы кажам "насельніцтва" пра ўсіх, хто пражывае ў краіне, а "народ" — гэта тое насельніцтва, што народжана ў гэтай краіне і мае аснову, якая "прашыта" адзінымі жаданнямі, думкамі, імкненнямі. З "народу" вылучаюць "людзей" (нездарма ж кажуць: "Народу на кірмашы было болей, чым людзей"). З "лю-дзей" выходзяць "асобы". Асобы — гэта Скарына, Каліноўскі, Купала, Быкаў... Наша вольнасць, наша самастойнасць — гэта глеба, без якой не вырасціш асобу. А без выбітных асоб здрабнее люд. Здрабнеюць людзі — народ пачне ператварацца ў звычайнае насельніцтва, якое можа растварыцца ў сусветнай прасторы... Бачыце, як усё узаемазвязана.

# Хто каго вучыць?

Незалежнаму назіральніку падаецца часам немагчымым, каб Лукашэнка — кіраўнік краіны — гэтак адчайна не паважаў культуру і мову таго народа, якім яму давялося кіраваць амаль сем гадоў. Калі нават прыняць, што ён не беларус. Калі нават усведаміць, што ён усе гэтыя гады высільваўся паказваць найвялікшую адданасць Маскве, якая, як вядома, баіцца арыентацыі сваіх суседзяў на ўласныя нацыянальныя інтарэсы. Здаецца неверагодным, што чалавек, які ўсё сваё жыццё пражыў у Беларусі, можа гэтак зняважаць адну з самых прыгожых славянскіх моваў. І словам, і справай, і сваімі разбэшчанымі й нахабнымі хаўруснікамі.

Але ж мы часта бачым перад сабой характэрны прыклад недавука — звычайнай і шырока распаўсюджанай фігуры постсавецкай прасторы, прыклад саўдэпаўскага эрзац-інтэлігента, вузкага, ідэалагічна задуранага спецыяліста, — тып, створаны і ўзгадаваны сістэмай народнай адукацыі. Бярэмя такіх кадраў нарабілі ў свой час сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы былога СССР, асабліва на завочных аддзяленнях. А на перыферыі, каб паступіць у навуку, атрымаць залік або добрую адзнаку за якую дысцыпліну, будучыя савецкія інтэлігенты цягнулі пад пахамі да выкладчыкаў свіныя плечы, каўбасы, гарэлку. Многія выкладчыкі (і не толькі перыферыйных навучальных установаў) набылі за гады саўдэпаўскай бяскорміцы і калектыўнага п'янства блішчастыя чырвона-сінія насы. Уявіце сабе, якіх спецыялістаў народнай гаспадаркі, якіх настаўнікаў яны навыхоўвалі. Нездарма ж Лукашэнка сваё праўленне пачаў з праверкі экзаменаў у школах ды інстытутах. Сам прайшоў праз адпаведную адукацыю ў Магілёве і стаў спэцыялістам такога шырокага профілю, што ніхто дакладна не скажа, які ён прафесійй валодае. Нешта, быццам, вывучаў па гісторыі і эканоміцы. Ды якасць гэтай навукі мы ўжо так на сабе адчулі, што, здаецца, каб дзе пабачыў таго выкладчыка, які яго вучыў...

Недавук ад вучонага адрозніваецца тым, што думае, быццам ведае ўсё на свеце. Няма пытання, на якое ён не дасць аднаго, але правільнага адказу. Рэфлексія «я ведаю, што нічога не ведаю» яму не ўласцівая. Ён жа вучыўся і атрымаў дыплом! Яго ўжо прызналі за адукаванага чалавека, а калі да гэтага дадаць рэгулярнае «чценіе періадзічэскай печаці» ды курсы марксізму-ленінізму... Уга!

Але вернемся да пачатку нашага роздуму. Маем факт, што настаўніца вучыла некалі маленькага Сашыка беларускай мове. Вучыла любіць Радзіму, паважаць старэйшых, быць добрым і чулым хлопчыкам. Потым іншыя настаўнікі і выкладчыкі вучылі яго пятнаццаць гадоў таму, што ведалі самі. А зараз выхаванец (квінтэсенцыя сваіх настаўнікаў) вучыць іх жыць на тры грошы ў дзень, быць цынічным, нахабным, таптаць беларускую мову, хлусіць і гандляваць Радзімай. Дык хто з іх лепшы педагог?

**Аляксандар ДУБРАВІН – "Наша Свабода"**

***************************************************

# ТОЕ – СЁЕ...

24-га сакавіка ў Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры адбылося ўрачыстае падпісаньне Акту незалежнасьці Беларусі, прынятага дэлегатамі Ўсебеларускага з'езду ў ліпені мінулага году. Актам абвешчаны незалежнасьць Беларусі й дзяржаўны сувэрэнітэт неад'емнымі каштоўнасьцямі народу й падкрэсьлена, што любыя дакументы й дзеяньні, скіраваныя на зьнішчэньне альбо абмежаваньне сувэрэнітэту краіны не маюць законнай моцы. Пад Актам незалежнасьці паставілі подпісы вядомыя грамадзкія дзеячы: Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Грыцкевіч і акадэмік Радзім Гарэцкі.

24-га сакавіка ў Менскім касьцёле сьвятых Сымона й Алены адбыліся ўрачыстасьці, прысьвечаныя выхаду 500-га нумару выданьня Таварыства Беларускай мовы - газэты "Наша слова". Выдаўцоў і чытачоў павітаў народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў, які на першай старонцы юбілейнага нумару назваў родную мову адзіным "лякаматывам выратаваньня" нацыі. Рэдактар газэты Станіслаў Суднік адзначыў: "Наша слова" выходзіць, дзякуючы падтрымцы васьмі тысяч актывістаў ТБМ і 500 няштатных карэспандэнтаў, якія жывуць у краіне й па-за яе межамі. Ён выказаў падзяку дэмакратычнай грамадзкасьці за спрыяньне "Нашаму слову" й упэўненасьць у перамозе ідэалаў беларускага грамадзтва.

Старшыня Саюзу палякаў на Беларусі Тадэвуш Кручкоўскі не выключае верагоднасьці зьяўленьня на Беларусі Польскай палітычнай партыі. Такую думку сп-р Кручкоўскі выказаў у інтэрвію газэце "Глос з-над Немна". Тадэвуш Кручкоўскі бачыць мэты будучай арганізацыі ў справе адраджэньня польскасьці. Разам з тым, ён негатыўна паставіўся да магчымасьці станаўленьня на тэрыторыі Беларусі польскае аўтаноміі.

У траўні 2001 году Нацыянальная авіякампанія "Белавія" мяркуе наладзіць рэгулярныя палёты ў Парыж. Папярэдне плянуецца, што рэйсы ў сталіцу Францыі будуць зьдзяйсьняцца 2 разы на тыдзень, а пасажырамі стануць бізнэсоўцы й турысты.

# Бумэранг

**Алена Арэшка,** "Радыё Рацыя"

...Тыдзень таму зь вялікім зьдзіўленьнем выцягнула я з паштовай скрыні газэту камуністычнай партыі Белорусі "Мы и время", але чамусьці за кастрычнік 2000 году. Мабыць, матар'ялы, не распаўсюджаныя ў мінулым годзе, на думку партыйцаў, спатрэбяцца насельніцтву зараз.

Я асабіста зьвярнула ўвагу толькі на заяву Савету Менскай гарадзкой арганізацыі грамадзкага аб'яднаньня "За дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасьць": "Празаходнія нацыянал-экстрэмісцкія сілы ў рэспубліцы, больш за ўсё БНФ, працягваюць эксплюатаваць у сваіх падрыўных мэтах створаны імі злавесны міт аб Курапатах. Сёньня дастаткова доказаў, што ў гэтым ўрочышчы палі ахвяры не сталінізму, але гітлераўскага фашызму. Так сьцьвярджаюць сьведкі, такі вынік дала незалежная грамадзкая камісія па расьсьледаваньні, які абапіраецца на рэчавыя ды іншыя доказы..." й гэтак далей. Сёньня пагаворым -- пра Курапаты.

Мінула 12 год з таго часу, калі ў газэце "Літаратура і мастацтва" зьявіўся вядомы артыкул "Курапаты - дарога сьмерці". Тады ўпершыню, і менавіта па фактах, якія ўтрымліваў артыкул, у Савецкім Саюзе была адкрыта крымінальная справа супраць дзяржавы за злачынствы са сваім народам. А хуткім часам увесь Савецкі Саюз праз публікацыі ў цэнтральнай прэсе даведаўся пра масавыя захаваньні пад Менскам мірных жыхароў -- ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў. Гэта было ў 1988 годзе. Што ж зараз? Са словаў Ігара Кузьняцова, "апошнія чатыры гады курапацкая праблема ўзьнікае толькі пад час Дзядоў, калі традыцыйна ўскладаюцца кветкі да помнага крыжа "Пакутнікам Беларусі" -- выконваецца своеасаблівы рытуал. Гэта добра, але ў жыцьцё ўвайшло новае пакаленьне, якое ўвогуле пра трагедыю нічога не ведае. Нават сярод студэнцкай моладзі, калі, напрыклад, чалавек дваццаць у групе на пытаньне "Хто з вас быў у Курапатах?" толькі чалавекі двавтры адказваюць станоўча -- у лепшым выпадку. Гэта значыць, што для васямнаццаці чалавек Курапаты -- абстрактная праблема. У новых школьных падручніках праблема палітычных рэспрэсіяў ня ўзгадваецца. Яшчэ некалькі год -- і памяць пра Курапаты застанецца толькі ў сьвядомасьці людзей, якія жылі ў "перастроечны" пэрыяд. І на гэтым тле ў дзяржаўным друку выходзяць артыкулы, якія тэму курапацкіх злачынстваў трактуюць зусім інакш".

Бурныя спрэчкі вакол самой тэмы рэпрэсіяў, і канкрэтна Курапатаў як месца пахаваньня ахвяраў, пачаліся адразу. Як вядома, першае сьледзтва было праведзена ў 1988-м годзе. Спэцыяльна створаная камісія абсьледавала мясцовасьць прыкладна ў 30 га, і было знойдзена 510 ямаў-пахаваньняў. Хаця ўскрытыя былі толькі паўтары дзясяткі магілаў, чыста матэматычна -- як прынята ў такіх выпадках у прафэсіяналаў, паколькі ў адной магіле знаходзіліся парэшткі прыкладна 60-ці людзей - быў зроблены агульны падлік курапацкіх ахвяраў: прыблізна 30 000 чалавек. Сьледзтва было скончана, дзяржаўная камісія па расьсьледаваньні, на чале якой была Ніна Мазай, тады намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету, у сьнежні 1988 г. прыйшла да рашэньня абнародаваць інфармацыю, што пад Менскам, за 200 м на Поўнач-Паўночны Захад ад мікрараёну Зялёны Луг, на тэрыторыі Бараўлянскага сельсавету Менскага раёну органамі НКВД БССР у пэрыяд з 1937 да 1941 гг. чыніліся масавыя расстрэлы цывільных грамадзян.

У ходзе сьледзтва былі апытаны яшчэ жывыя сьведкі тых злачынстваў. Цытуем паказаньні Міхала Давідсона, былога кіроўцы гаража Менскага НКВД: "Мяне выклікаў дзяжурны па НКВД - прозьвішча яго ня памятаю - і сказаў пакінуць сваю эмку, пайсьці ў дворышча й сесьці ў машыну (яна называлася "воран") і ехаць, куды скажуць. Сказаў ехаць у бок Маскоўскай шашы. Калі ўехалі ў лес, я ўбачыў вялікую прастакутную яму. Па шырыні яна была прыкладна як даўжыня вашага пакою... Я ўключыў сьвятло й убачыў, што ззаду з кузава выводзяць людзей. Частка зь іх ужо сядзела па краях ямы, ногі зьвешваліся ўніз, а рукі былі зьвязаны за сьпінаю. Калі яма была запоўнена людзьмі, іх пачыналі расстрэльваць. Расстрэльваў толькі адзін супрацоўнік камэндатуры, страляў зь пісталету ў патыліцу - і людзі падалі ў яму. Калі ўсе былі забітыя, ён сам скакаў у яму і ўтоптваў людзей - я чуў хрумст касьцей. Прозьвішча гэтага супрацоўніка Астрэйка, імя ды імя па бацьку ня памятаю".

Але ўжо ў ліпені 1991 году нейкая грамадзкая камісія зьвярнулася ў пракуратуру СССР з патрабаваньнем правесьці новае больш аб'ектыўнае сьледзтва. Прыехалі новыя следчыя, папрацавалі, ды нічога новага прынцыпова не знайшлі. Потым быў путч, распад Савецкага Саюзу, і матар'ялы гэтага другога сьледзтва надрукаваны не былі. У лютым 1992 г. сябры новай грамадзкай камісіі нечакана зьвяртаюцца ў Вярхоўны Савет з патрабаваньнем ізноў правесьці новае сьледзтва. Гэты ж самы зварот яны накіроўваюць у Вярхоўны Савет і ў 1993 г. У лістападзе 1994 г. грамадзкая камісія на чале зь Іванам Загараднюком, былым партызанам, зьвяртаецца ў Адміністрацыю прэзыдэнта, пракуратуру й гэтак далей з тым жа самым патрабаваньнем, бо ў гэтай камісіі зьявілася, на іхную думку, абгрунтаваная вэрсія, што ў Курапатах ляжаць парэшткі расстраляных немцамі габрэяў з Заходняй Эўропы.

Новае дасьледаваньне было распачатае. На чале яго стаў старшы сьледчы па асабліва важных справах пракуратуры Валеры Камароўскі, і па выніках працы ў сьнежні 1995 году ва ўсіх дзяржаўных газэтах была надрукавана пастанова, у якой сьцьвярджалася: падставаў да аднаўленьня сьледзтва няма. Вясною 1997 году грамадзкая камісія ізноў, разам з гарадзкім клюбам гістарычных ведаў, на чале якога стаіць прафэсар Адам Залескі, шчыры сталініст і шматгадовы апанэнт Ігара Кузьняцова, зьвярнулася ўжо да прэзыдэнта Лукашэнкі з патрабаваньнем правесьці яшчэ адно дасьледаваньне: пракуратура ж вяла справу неаб'ектыўна, а ў Курапатах ляжаць расстраляныя фашыстамі гамбурскія габрэі. Грамадзкая камісія знаходзіць нейкіх неверагодных сьведкаў, якія нават і ня ведаюць, дзе знаходзяцца Курапаты. Расьсьледаваньне даручаецца вайсковай пракуратуры.

Ізноў пачынаецца ўсё з нуля. Вайсковая пракуратура працуе прафэсыйна, і пад час чарговай эксгумацыі ў лістападзе 1998 году знаходзяць самае вялікае захаваньне -- магілу з парэшткамі 300 чалавек. Бясспрэчна, на сьледзтва ўплывалі, а да архіваў камітэту КГБ следчых не дапусьцілі. Але й гэтая група аніякага нямецкага сьледу ў Курапатах не знайшла. І 1-га красавіка 1999 году справа была спынена. Гэткім чынам, пасьля ўсіх чатырох даследаваньняў курапацкая справа налічвае цяпер каля 20 тамоў матар'ялаў.

Асноўны доказ сяброў грамадзкіх камісіяў, якія ўпарта дамагаюцца пераносу віны за злачынства ў Курапатах са сталінскіх органаў на нямецкіх фашыстаў, -- гэта знойдзеныя асабістыя рэчы ахвяраў ня толькі з савецкімі, але й з замежнымі маркіроўкамі. Але ж агульна вядома: 17 верасьня 1939 году савецкае войска прылучыла Заходнюю Беларусь да СССР, жыхары якое, відавочна, насілі адзеньне й абутак несавецкай вытворчасьці. Да таго ж, адразу пасьля вызваленьня Менску ў 1944 г. тут працавала Дзяржаўная камісія па выяўленьні зьверстваў фашысцкіх захопнікаў у адносінах да мірнага мясцовага насельніцтва. Камісія агледзела ўсе мясьціны, дзе гітлераўцы зьнішчалі ваеннапалонных і мірных жыхароў, апытала сотні сьведкаў, якія дакладна ведалі, дзе рабіліся расстрэлы,- Курапаты не спаміналіся. Тут расстрэльвалі не фашысты. І пра гэта сьведчыць факт, што мэханізм расстрэлаў НКВД адрозьніваўся ад нямецкага й меў свой адметны почырк. Валеры Камароўскі, старшы сьледчы па асабліва важных справах пракуратуры, атрымаў таксама даведку зь Інстытуту халакосту эўрапейскага габрэйства ў гады Другой сусьветнай вайны Ялд-Вашэм, дзе гаворыцца што ў архіўных дакумэнтах і картатэцы не пазначаны населеныя пункты Цна-Ёдкава, Зялёны Луг і ўрочышча Брод у раёне Менску як месцы масавых расстрэлаў габрэяў. Дарэчы, Курапаты - не адміністрацыйная назва гэтае мясцовасьці: слова пачало ўжывацца толькі з 1988 году. А рэчавыя доказы - абутак, грэбень, стрэляныя гільзы, посуд, каталіцкія мэдальёны - усё датавана не пазьней за 1940 год. Гэтакім чынам і апошняе дасьледаваньне не знайшло нямецкага сьледу, але пацьвердзіла вынікі папярэдніх.

Вынікі ж сьведчаць пра тое, што ўсе пахаваньні ўзьнiклі ў другой палове 1930-х гадоў, што ў асноўным людзі ва ўсіх пахаваньнях былі забіты стрэламі ў галаву з савецкага рэвальвэру сыстэмы "Наган", што ўсе пахаваныя належалі да цывільнага насельніцтва, што характар і намэнклятура знойдзеных рэчаў сьведчаць: нябожчыкі былі сабраныя ў далёкую дарогу; родны дом яны пакінулі незадоўга да сьмерці; магчыма, расстраляны без суду, без працяглага зьняволеньня; паходзяць з розных мясьцін Беларусі (магчыма, ёсьць выхадцы з краінаў Прыбалтыкі); мяркуючы па абутку, рэштках вопраткі й прадметах індывідуальнага карыстаньня, большасьць пахаваных -- рабочыя, сяляне, дробныя служачыя, вясковая інтэлігенцыя; сярод расстраляных ёсьць жанчыны.

І вось прайшло два гады, а матар'ялы апошняга сьледзтва не надрукаваны й кропка не пастаўлена. Гэтакім чынам, нейкія грамадзкія камісіі ізноў змогуць патрабаваць новага "аб'ектыўнага" дасьледаваньня. Быццам не дайшлі да іх пасланьні невядомых -- імёны аднавіць не ўдалося -- бязьвінных пакутнікаў. Сярод рэчаў жа ў Курапатах быў знойдзены грэбень з надрапаным тэкстам: "Цяжкі лёс зьняволеннага. Менск, 25 красавіка 1940 году. Дума пра вас даводзіць мяне да адчаю".

Ва ўрочышчы на камяні ёсьць надпіс: "У гэтым лясным масіве, у адпаведнасьці з пастановаю Савету Міністраў БССР ад 18 студзеня 1989 году, будзе пабудаваны помнік ахвярам масавых рэпрэсіяў 1937-1941 гадоў". Мінула 12 год -- аніякіх помніка й мэмарыялу няма. Пакуль Курапатам не нададзены статус мэмарыяльных могілак, там будуць шыкаваць пікнікі й гулянкі. Ідзе працэс сьціраньня памяці, а на тэму народнае трагедыі накладзена табу...

## *НАМ ПІШУЦЬ...*

Кароткі ліст сваяку ў Беларусі...

Дарагі пляменьнік!

Усім ведама, што Амэрыка і заходня-Эўрапейскія дзяржавы хацелі паставіць вас на ногі, але паколькі вы моцна ўчапіліся за серп і молат, то на вас махнулі рукой. Вы па-дурацку верыце, што серп і молат прывялі вас да дабрабыту, ну дык цешцеся добрым жыцьцём і сьпявайце песьні, як жыць стала лучше...

Як ведаеш, я жыву, Дзякуй Богу, у краіне свабоднай і дабрабытнай. Нам ніхто не забараняе гаварыць на нашай роднай мове. А ў вас, як хтось навучыцца цо-каць, то ўжо лічыць сябе палякам, а як навучыцца как і что-каць, — лічыць сябе рускім. Вось таму розным панкам і таварышам лёгка кіраваць вамі і гнуць вас у казіны рог.

Варта ўспомніць габрэяў. Яны рассяліліся па ўсім сьвеце, размаўляюць на розных мовах, але свайго паходжаньня ніколі не забываюць, яны дамагліся свае дзяржавы і цяпер жывуць прыпяваючы...

А вы што, сельскую гаспадарку зруйнавалі, людзей абалванілі, спаілі і пхаеце іх назад у адсталасьць і чужы хамут.

Ты ў кожным лісьце запрашаеш нас у госьці, але як да вас ехаць, калі вашае начальства пачуўшы нашую беларускую мову можа пачаставаць нас дубінкамі...

Вось да чаго вы дажыліся, Ганьба на ўвесь сьвет, што нават на сваёй зямлі ня маеце права размаўляць на роднай мове. Што гэта за такая дурная палітыка... Як народ мог дапусьціць да такога зьдзеку... У іншых рэспубліках, пасьля развалу бальшавіцкай імпэрыі, нават партыйныя дзеячы сталі нацыянальна сьведамымі ды адстаялі сваю незалежнасьць. Цяпер ім ніхто не прыказвае як і што рабіць і на якой мове размаўляць... А ў вас чужынец усім кіруе і трымае ўсіх у страху...

Жадаю вам усяго найлепшага. Пішыце.

Пётра П.

***Падтрымоўвайце беларускія выданьні!***

# Алесь ЛОЗКА: «Саромеемся прызнацца, што роднай мове патрэбна абарона з боку дзяржавы?»

У сувязі з гэтым аглядальнік «Звязды» сустрэўся са старшынёй рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай школы», дацэнтам Белдзяржуніверсітэта Алесем ЛОЗКАМ і папрасіў яго пракамэнтаваць сытуацыю, якая складваецца з беларускамоўным навучаннем у нацыянальнай адукацыйнай сістэме.

— Каб лепш зразумець стан спраў, звычайна прынята звяртацца да статыстыкі і з нечым параўноўваць. Я прапаную ў працэсе размовы час ад часу суадносіць сітуацыю з 1994 годам, калі быў своеасаблівы «пік» навучання на нацыянальнай мове, — прапанаваў Алесь Лозка. I працягваў:

— Зараз у Беларусі 1 мільён 498 тысяч 417 школьнікаў. З іх на беларускай мове вучацца крыху больш як 435 тысяч — гэта 29 працэнтаў. Лічба ўвесь час «падае». Па-руску вучацца 70,9 працэнта школьнікаў. Дарэчы, летась было роўна 70. Як бачыце, гэтая лічба расце.

**— Мо так і нельга пытацца, але я ўсё ж спытаюся. Зразумела, што 100 працэнтаў на мове карэнных жыхароў вучыцца не будуць. Тады якая статыстыка была б, на ваш погляд, больш лагічнай, ці што? Інакш кажучы, які той паказчык, да якога варта імкнуцца?**

— Апошні перапіс паказаў, што ў краіне 81,6 працэнта беларусаў, і 85,6 працэнта з іх лічаць беларускую мову роднай. Значыць, у ідэале працэнт беларускамоўных вучняў павінен недзе імкнуцца да лічбы 80. Так падказвае логіка. Гэта, канечне, у ідэале. У жыцці ж бывае інакш.

**— Але існуе статыстыка беларускамоўных школ, і яна іншая.**

— Яна больш «спакойная». Беларускамоўных школ у рэспубліцы 61,9 працэнтаў. Рускамоўных — 26,3 працэнтаў. Дык вось, у гэтых 26-ці вучыцца па-руску пераважная большасць дзяцей, я ўжо казаў — 70,9 працэнтаў. Такія «нажніцы» склаліся за кошт таго, што беларускамоўныя школы ў асноўным у вёсцы, і яны скрозь — малакамплектныя.

Каб карціна была поўнай, дададзім, што ёсць і так званыя «змешаныя» школы, дзе маюцца і беларускія, і рускія класы. Іх 553 — 11,7 працэнтаў.

**— Мы збіраліся параўноўваць з 1994 годам...**

— Тады звярніце ўвагу вось на што. Ужо ў наступным, 1995 годзе, на рускую мову навучання было пераведзена адразу 108 школ. Па сутнасці, зніклі 108 беларускамоўных школ, і не дзенебудзь, а ў Беларусі. Абвал працягваецца да гэтага часу, толькі тэмпы крыху запаволіліся.

I яшчэ адна тэндэнцыя, якая не назіралася нават у «застойныя» часы — упершыню тады ж пачалі пераводзіцца на рускую мову навучання вясковыя, глыбінныя школы, што ўвогуле ненатуральна. Адным махам, за год, была пераведзена (менавіта пераведзена, бо наўрад ці гэты працэс з'яўляўся добраахвотным) 91 вясковая школа.

Я ўжо казаў, што працэс працягваецца. За шэсць гадоў было знішчана (хай мне прабачаць за гэтае слова) 315 беларускіх школ.

**— Алесь Юр'евіч, я павінен вам напомніць, што існуе погляд, згодна з якім станоўчыя вынікі 1994 года былі дасягнуты ў працэсе ледзь не прымусовай «беларусізацыі», а затым людзям «далі волю», і пачаўся адкат, які зараз расцэньваецца як заканамернасць.**

— Тэма гэта шырока абмяркоўвалася, я адно толькі хачу сказаць. Думаю, дзяржаве даўным даўно трэба было вызначыцца са сваёй моўнай палітыкай. Бо такія вось адчувальныя хістанні даюць, у рэшце рэшт, разбуральныя вынікі. Гэтая «воля» не азначае, што бацькі выбіраюць дзецям мову навучання. Шмат што залежыць ад чыноўнікаў. Такая палітыка цягнецца здаўна. У нацыянальнай дзяржаве мы не можам сабе дазволіць бясконца імкнуцца да «нуля» ў колькасці нацыянальных школ, таму што мова — адзін з галоўных атрыбутаў нацыянальнай прыналежнасці.

Вызначыцца — і прытрымлівацца прынятых законаў. Не спрабаваць іх бясконца перарабляць.

**— У вас ёсць падставы, каб трывожыцца?**

— Баюся, што ёсць. Зараз падрыхтаваны папраўкі да Закона аб адукацыі, дзе запісана вось так: «Грамадзяне маюць права на выбар мовы навучання і выхавання ў межах магчымасцяў, якія прадастаўляе сістэма адукацыі».

Вельмі трывожны пункт. Ён разыходзіцца з тымі гарантыямі, якія дае грамадзяніну Канстытуцыя. Дастаткова ў нейкім раённым аддзеле адукацыі заявіць, што магчымасцяў няма — і пытанне само сабой вырашаецца. Альбо дырэктар школы рукамі развядзе: ну няма магчымасцяў, чаго вы хочаце? I пачне трактаваць іх адвольна.

Дакумент гэты складзены толькі па-руску, і пераклад мой, асабісты. Я думаю, з таго ўсё і пачынаецца: заканадаўчая ўлада працуе чамусьці на адной з дзвюх дзяржаўных моў. Ад яе не адстае выканаўчая ўлада, як у цэнтры, так і на месцах. Тады чаго мы хочам?

Дарэчы, пра цэнтр. Тое, што ў Мінску сёння на беларускай мове навучаецца ўсяго 8,4 працэнта вучняў, гонару нікому не робіць.

У сталічнай вобласці мы недалічыліся ў гэтым навучальным годзе адразу 14 беларускамоўных школ. На Магілёўшчыне — пяці, на Гомельшчыне — таксама пяці, у Брэсцкай вобласці — чатырох, на Віцебшчыне — адной.

Адзіны рэгіён, дзе назіраўся рост — Гродзенская вобласць. Тут дабавіліся чатыры беларускамоўныя і чатыры рускамоўныя школы — але за кошт раздзялення двухмоўных школ.

Каб чытач мог ацаніць бліжэйшую перспектыву, давайце пазнаёмім яго з тым, як ідзе набор вучняў у першыя класы (гл. табліцу).

**— Вы сказалі, што ідзе раздзяленне двухмоўных школ. Але некаторыя вашы калегі-навукоўцы лічаць, што выйсце якраз у двухмоўных школах. Што не варта палярна размяжоўвацца, і як бы рэзаць па жывому, а патрэбна вывучаць абедзве мовы, бо яны абедзве — родныя.** (?!)

— Кіруючыя работнікі Міністэрства адукацыі таксама ў розны час выказваліся за тое, каб у рускамоўных школах вывучаць па-беларуску такія прадметы як гісторыя Беларусі, што зусім натуральна. А таксама геаграфію сваёй краіны, дзе беларускамоўныя назвы; выяўленчае мастацтва, у якім тэрміналогія ў значнай ступені нават дыялектная, не толькі беларускамоўная. Пры перакладзе, скажам, назваў прадметаў мастацкіх промыслаў ці свят народнага календара яны многае страцяць у сваёй семантычнай афарбоўцы. У той жа час у беларускамоўнай школе ўжо зараз па-руску вядуцца заняткі па фізкультуры, па замежных мовах, дапрызыўнай падрыхтоўцы, хоць гэта і з'яўляецца парушэннем моўнага рэжыму ўстановы.

**— Я ведаю, сітуацыя зусім нядаўна абмяркоўвалася на сустрэчы актыву ТБШ з дырэктарамі беларускамоўных школ Мінска. Аб чым гаварылі яе ўдзельнікі?**

— Мы паспрабавалі разгледзець праблему з розных бакоў. Пачынаючы з тых выпадкаў (спадзяюся, не шматлікіх), калі на дырэктара школы аказваўся адміністрацыйны ціск, і яму прама было сказана не набіраць дзяцей у беларускамоўныя класы, а набіраць у рускамоўныя. Удзельнікі сустрэчы прыйшлі да высновы, што тут многае залежыць ад грамадзянскай пазіцыі дырэктараў школ. Многія з іх не спалохаліся чыноўніка, які ў нацыянальнай дзяржаве праводзіць антынацыянальную палітыку, і змаглі захаваць беларускамоўныя школы, беларускамоўныя класа-камплекты, набраць новых вучняў.

Падкрэслівалася, што паўнакроўныя беларускамоўныя школы павінны быць у кожным мікрараёне беларускай сталіцы, каб бацькі не бегалі ў пошуку іх па ўсім горадзе. Пакуль што з гэтым складана, асабліва ў новых мікрараёнах, у тых жа Сухарава ці Малінаўцы.

Такая ж сітуацыя, калі не горшая, з дзіцячымі садкамі. А бацькоўская грамадскасць настойліва патрабуе, каб былі і беларускамоўныя садкі, і групы ў садках, і дні беларускай мовы ў рускамоўных дзіцячых дашкольных установах.

Гаварылі, што ў вучняў, якія вучацца па-беларуску, павінна быць перспектыва. У гэтым сэнсе прысутных абнадзеіў рэктар дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Леанід Міканоравіч Ціханаў, які паведаміў, што на вучоным савеце універсітэта прынята рашэнне аб паступовым пераходзе на беларускамоўнае навучанне.

Выказваліся прапановы аб арганізацыі беларускамоўных патокаў у іншых ВНУ, аб вызначэнні статусу рускамоўнай школы ў Беларусі. Было выказана шкадаванне ў сувязі з тым, што доўга не прымаецца даўно абяцаная дзяржаўная праграма падтрымкі беларускай мовы — гаворка аб ёй ідзе некалькі гадоў. Ці то саромеемся прызнацца, што роднай мове патрэбна абарона з боку дзяржавы, ці то падтрымліваць не жадаем?..

Гутарыў Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ. --"Звязда"

# ВЫНІШЧЭНЬНЕ...

Да праблемаў беларускай культуры і мовы, якія вымушаныя выжываць у варунках "разьвітога" таталітарызму бюлетэнь "Права на волю" зьвяртаўся ня раз. Нашыя пастаянныя чытачы знаёмыя з сітуацыяй, што склалася ў беларускіх школах, дзе колькасьць вучняў, якія маюць мажлівасьць навучацца на мове карэннай нацыі — сваёй роднай мове! — кожны год ад прыходу да ўлады А.Лукашэнкі скарачаецца. Пісалі мы і пра перасьлед беларускамоўных творцаў і аб праявах цэнзуры ў мастацтве... Нават просты аналіз фактаў дае падставы зрабіць выснову, што вынішчэньне беларускай мовы і культуры — ёсьць дзяржаўная палітыка рэжыму Лукашэнкі. А.Лукашэнка, які адразу пасьля прыходу да ўлады абвясьціў: "я свой народ за цывілізаваным сьветам не павяду", усюды і заўсёды прынцыпова размаўляе толькі на рускай мове (дакладней, на "трасянцы" — сумесі беларускай і рускай моў з шалёным акцэнтам, але сам ён лічыць мову, якой карыстаецца, рускай) і калі і ўжывае беларускія словы, дык выключна з мэтай выказаць сваю пагарду да апазіцыі, да дзеячаў культуры і, у прыватнасьці, літаратуры.

Вось і на нядаўняй сустрэчы А.Лукашэнкі з дзеячамі культуры ў чарговы раз з вуснаў А.Лукашэнкі прагучала, што руская мова для беларусаў зьяўляецца гэтакай самай роднай, як і беларуская. У першыя гады ў адказ на падобныя "адкрыцьці" Лукашэнкі, у друку зьяўляліся карыкатуры з "двух'языкім" беларусам, сьцьвярджэньні кшталту, што два языкі толькі ў зьмяі, ды сур'ёзныя артыкулы аўтарытэтных вучоных пра тое, што будова артыкуляцыйнага апарату людзей перадаецца генетычна, а таму на іншых, ня родных, мовах яны размаўляюць з акцэнтам (прыклад гэтаму і сам Лукашэнка, якога за шэсьць гадоў кіраўніцтва краінай так і не навучылі правільна — па-руску! — вымаўляць літары "ч", "г" "р" ды іншыя...) Але ці прыслухаўся хто да іх? Пытаньне рытарычнае.

Сітуацыя ў краіне разьвіваецца так, што простае паўсядзённае карыстаньне беларускай мовай становіцца небясьпечным. Як на дзяржаўным узроўні, так і на бытавым. Папершае, той, хто гаворыць пабеларуску, аўтаматычна залічваецца ў апазіцыянеры, а значыць у ворагі, з якімі трэба змагацца. Падругое, міліцыянты на вуліцы, пачуўшы з вуснаў моладзі беларускую мову, могуць спыніць, абшукаць і затрымаць на няпэўны час, а неафашысты могуць падпільнаваць дзенебудзь у цёмным месцы і зьбіць (колькасьць такіх выпадкаў, якія нідзе не фіксуюцца, а больш за тое — замоўчваюцца, няўхільна расьце). Патрэцяе, любы прадавец у краме можа прынізіць носьбіта беларускай мовы са злосьцю загадваючы яму "гаварыць на нармальнам языке"...

Тут дарэчы будзе прыгадаць, што адною з першых акцыяў Лукашэнкі пасьля прыходу да ўлады была арганізацыя і правядзеньне рэфэрэндуму па зьмене беларускай нацыянальнай, гістарычнай сімволікі — гербу "Пагоня" і белчырвона-белага сьцягу — на сімвалы камуністычныя, а таксама наданьне рускай мове "роўнага статусу" з беларускай, што на справе азначала выцясьненьне беларускай мовы з усіх сьфераў ужытку. Пратэсты нацыянальнай інтэлігенцыі не былі пачутыя. Больш за тое, адначасова пачалося

ганьбаваньне і самой інтэлігенцыі. Як і некалі ў "ленінскія" гады само гэтае слова стала адмоўналаянкавым. Работнікі культуры па ўзроўні заробкаў займаюць апошняе месца ў краіне, і заробкі гэтыя — ніжэй пражытковага мінімуму. Ганарары за творчую працу мізэрныя. Акцёры, мастакі, пісьменьнікі, каб неяк выжыць і пракарміць свае сем'і, вымушаныя кідаць любімую справу, шукаць іншых даходаў. Узмацніўся і ідэалагічны ўціск. Усялякая спроба выказаць думку, адметную ад афіцыйнай, зьяўляецца крамолай. Вось і зьязджаюць творцы. Толькі за апошнія гады за мяжой апынуліся найбольш вядомыя ў сьвеце беларускія пісьменьнікі: Васіль Быкаў (прыняла яго Германія, краіна, супраць якой ён некалі ваяваў), Уладзімір Някляеў (жыве ў Фінляндыі, застаючыся, дарэчы, дзеючым старшынёй Саюза беларускіх пісьменьнікаў), Алесь Разанаў (зьехаў у Германію), Сьвятлана Алексіевіч (жыве ў Італіі)... Гэта толькі найбольш вядомыя імёны. І зьехалі гэтыя творцы з радзімы не па сваёй волі.

Дзяржаўная палітыка на задушэньне беларускага слова заўважаецца і па тым, што з году ў год скарачаецца колькасьць кніг, што выходзяць пабеларуску. Ня будзем прыводзіць статыстычныя дадзеныя, скажам толькі, што па колькасьці назваў і па агульным накладзе беларускамоўныя выданьні складаюць прыблізна дзясятую частку таго, што друкуецца ў краіне. Усё астатняе, зразумела, паруску. Кнігі беларускіх аўтараў не выходзяць гадамі. Выдавецкая цэнзура стала яшчэ больш жорсткаю, чымсьці ў савецкія часы. Прычым пад забарону цэнзуры трапляе ня толькі ўласна "крамольны" твор аўтара, але і ўся ягоная творчасьць. Імёны Гілевіча, Барадуліна, Арлова, Бураўкіна, Зуёнка гучаць для дзяржаўных чыноўнікаў як сігнал да выкрэсьліваньня, выкараненьня, забароны. З цэнзурных меркаваньняў зьнятыя з выдавецкіх планаў кнігі А. Асташонка, Л. Галубовіча, Б. Сачанкі... Цэнзура дабралася і да прыватных, здавалася б, непадпарадкаваных дзяржаве выдавецтваў: у мінулым годзе была пушчаная пад нож (зьнішчаны ўвесь наклад) кніга паэта і барда Эдуарда Акуліна — ён хацеў выдаць яе сваім коштам у "незалежнай" нібыта друкарні. Ня менш складаная сітуацыя і ў тэатральным сьвеце. Беларускамоўныя тэатры можна пералічыць на пальцах і выжываюць яны з наймавернай цяжкасьцю. Адток кадраў і адсюль значны. Пакінуў Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы вядучы беларускі рэжысёр Мікалай Пінігін — зьехаў у Пецярбург. А што робяць з тымі, хто спрабуе выстаяць у гэтых варунках, можна пабачыць на прыкладзе тэатру "Вольная сцэна", які праславіўся шэрагам сьмелых пастановак. Спачатку была забароненая ягоная назва, потым, нягледзячы на пратэсты калектыву звольнены галоўны рэжысёр Валеры Мазынскі. Калі ж частка трупы пакінула тэатр, вырашыўшы і далей працаваць разам са сваім рэжысёрам, на В. Мазынскага ў двары ягонага дому напаў невядомы і зьбіў да страты прытомнасьці... А кіно... Шматпакутнае кіно. Беларускамоўныя фільмы ў апошнія гады не выпускаюцца ўвогуле. А.Лукашэнка "асабіста" даў грошы на здымкі пракамуністычнарасейскага фільму "Момант ісьціны". Мелася быць сенсацыя, "праект стагодзьдзя", а выйшаў... пшык. У клетцы, хай сабе і залатой, мастакі не жывуць і ня твораць... І нарэшце — сродкі масавай інфармацыі. З адзінага нацыянальнага тэлеканалу, пасьля таго, як узначаліў яго кіраўнік Камуністычнай партыі беларускай і адданы лукашэнкавец В.Чыкін, зьнікла большасьць беларускамоўных культурніцкіх праграмаў. На мове карэннай нацыі гучаць толькі выпускі навінаў, і тое ў іх уся інфармацыя пра дзейнасьць А.Лукашэнкі, па загадзе, вядома ж, самога Лукашэнкі, перадаецца... паруску. Рэдакцыю літаратурнадраматычных праграмаў узначаліў сумнавядомы на Беларусі дзеяч Юры Азаронак, які штотыдзень штампуе перадачу пад назовам "Тайныя спружыны палітыкі", скіраваную супраць беларускай апазіцыі. Вось такія цяпер культура і мастацтва на БТ...

Натуральна, прыклад "бацькі" пераймаюць чыноўнікі па ўсёй створанай ім "вертыкалі" ўлады. Уся іх увага скіраваная на паказуху: на арганізацыю "славянскіх базараў" ды "дажынак" з запрашэньнем расейскіх попзорак. Усё ж беларускае — ад школаў да выданьняў — душыцца па прынцыпе: ня будзе мовы, ня будзе праблемаў... Адзін вядомы гістарычны дзеяч казаў, што пры слове "культура", ён хапаецца за пісталет... Такім чынам, беларускія ўлады і ў гэтым сэнсе неарыгінальныя. Дыктатура ёсьць дыктатура... Сьпецыфіка беларускай сітуацыі ў тым, што ідзе ня проста "зачыстка варожых элементаў" у межах адной мовы, як рабілі папярэднікі Лукашэнкі, а ідзе вынішчэньне самой мовы. Слова **"генацыд"** урэшце павінна прагучаць у нашай публікацыі. Бо інакш тое, што адбываецца ў Беларусі, не назавеш, бо вынішчаючы мову і культуру, лукашэнкаўцы зьнішчаюць цэлы народ, пакідаючы аморфную расейскамоўную масу — насельніцтва, бяз роду і племені, без нацыянальных каранёў, бяз памяці пра продкаў...

Каму гэта трэба? Ні за што не паверу, што трэба гэта рускаму народу... Дык навошта, дзеля чаго вядзецца гэты варварскі эксьперымент над беларускім народам?

**А. ЧАС.**, "Права на волю"

# КАЛІ ДЭМАКРАТЫЯЙ НАВАТ НЕ ПАХНЕ

**Арнольд Бэйхман, "Вашынгтон Таймс"**

*Адным з самых змрочных дзяржаўных утварэньняў, што ўзьніклі пасьля распаду Савецкага саюзу, стала Беларусь.*

На жаль, маё меркаваньне не адзінае - яго падзяляюць АБСЭ, Савет Эўропы і Эўразьвяз, чые прадстаўнікі ўвайшлі ў склад дэлегацыі, якая не так даўно заявіла., што тыранічны прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка й ягоны ўрад нічога не зарбілі для ўзнаўленьня дэмакратыі ў рэгіёне (Беларусь набыла незалежнасьць 10 гадоў таму).

Нават Расея, зь якой Беларусь 8 сьнежня заключыла двухбаковы саюз, што прадугледжвае больш шырокую палітычную й эканамічную інтэграцыю, асабліва энтузіязму да аб'яднаньня не праявіла,і гэта пра штосьці сьведчыць.

Дэлегацыя падвергла крытыцы парляманцкія выбары, якія адбыліся ў мінулую восень, бо ўлады краіны тэрарызавалі друкаваныя й электронныя СМІ, што перашкаджала асьвятленьню выбарчай кампаніі. Прымаючы ва ўвагу той факт, што ў верасьні павінны адбыцца прэзыдэнцкія выбары -- калі, вядома, выбраны ў 1994 годзе Аляксандар Рыгоравіч дазволіць -- эўрапэйская дэлегацыя запатрабавала ад кіраўніцтва краіны забясьпечыць правядзеньне дэмакратычнага і справядлівага выбарчага працэсу. Не баюся меркаваць, што рыначна-сацыялістычны рэжым, пад якім апынуліся 10,3 мільёнаў беларусаў, без якіх-небудзь дакораў ў чарговы раз парушыць прынцыпы дэмакратычнага волепамкненьня.

А тут яшчэ адзін з камэнтатараў мясцовага дзяржаўнага тэлеканалу публічна абвінаваціў амбасаду Злучаных Штатаў у распальваньні рэлігійнай варожасьці. Як паведаміла агенцтва навінаў Keston News Service тэлекамэнтатар Аляксандар Зімоўскі, сапраўдны рупар рэжыму, гучна заявіў, што за апошнія 8 год у краіне пабывала 430 агентаў ЦРУ і ўсё не без дапамогі амэрыканскай дапамогі. Гэтыя людзі нібыта займаліся зборам матар'ялаў, якія кампраметуюць розныя аспэкты дзяржаўнай палітыкі РБ, а таксама фінансавалі беларускія апазыцыйныя групы і іхных лідараў, правакуючы сэпаратысцкія тэндэнцыі і рэлігійныя спрэчкі.

Амбасада ЗША ў сталіцы Беларусі Менску пасьпяшалася абвергнуць гэтую заяву, а ягоны прэсавы сакратар Джон Куштадэр у сваім камэнтары і наогул абыйшоўся бяз лішкавага дыпляматызму:

"Калі гэта кагосьці так хвалюе рэлігійная нецярпімасьць, няхай ён зьвернецца спачатку да ўладаў Беларусі і даведаецца пра сытуацыю вакол рыма - і грэка - каталікоў, пратэстантаў і іншых канфэсіяў -- гэта праблема пацікавей".

Справаздачы, што публікуюцца штогод сьведчаць пра пагаршэньне сытуацыі з правамі чалавека: паказныя палітычныя працэсы, праваль-ныя парляманцкія выбары, зьнікненьні вядомых апазыцыйных палітыкаў, абмежаваньне свабоды слова, забарона масавых шэсьцяў. Кандыдатам ад апазыцыі адмаўляюць у рэгістрацыі для ўдзелу ў выбарах.

Адзін з накірункаў дыктатарскай палітыкі рэжыму, якое магло б зацікавіць AFL-CIO, моцна аддае савецкім мінулым і нагадвае сытуацыю з польскай "Салідарнасьцю": наступленьне на незалежныя прафсаюзы. Сябры Свабоднага Прафсаюзу Беларускага падвяргаюцца ўціску па месцы працы, іх прымушаюць да ўступленьня ў афіцыйныя прафсаюзы, у супраціўным выпадку пагражаюць звальненьнем. Час ад часу ўчыняецца канфіскацыя накладаў незалежнага воргану СПБ газэты "Рабочы".

У мінулым годзе, згодна статыстыцы Human Rights Watch, беларускія ўлады двойчы канфіскоўвалі наклад "Рабочага", аднойчы нават арыштавалі рэдактара выданьня і трох ягоных партнэраў, сярод якіх быў дырэктар друкарні, па абвінавачваньні ў распаўсюджваньні матар'ялаў, якія ўтрымліваюць заклікі да байкоту парляманцкіх выбараў...

Беларусь, вядома, не Савецкі Саюз, а Лукашэнка ня Сталін, але амбіцыяў ў яго хапае.

****************************************

# Фонд памяці Міколы Ермаловіча

**Заснаваны фонд памяці вядомага беларускага гісторыка, пісьменніка і літаратуразнаўцы Міколы Ермаловіча. Такое рашэнне прынялі ўдзельнікі вечарыны, якая прайшла 2 сакавіка ў сталічным Доме літаратараў і была прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння і гадавіне трагічнай смерці вучонага.**

Арганізатарам вечарыны выступіў Мінскі гарадскі культурна-асветны клуб «Спадчына» і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Як зазначыў старшыня клуба, у плане працы аргкамітэта фонду — узвядзенне ў Маладзечне помніка Ермаловічу і мемарыяльнай дошкі на доме, дзе ён жыў, правядзенне навуковых канферэнцыяўй і выставаў, прысвечаных яго творчасці, адкрыццё экспазіцыі памяці вучонага ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры, а таксама стварэнне настольнага медаля з выявай гісторыка, якім будуць адзначацца найбольш вядомыя прадстаўнікі нацыянальнай культуры.

Намеснік дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны, кандыдат гісторыі Віталь Скалабан зазначыў, што Ермаловіч з'яўляецца не толькі гонарам айчыннай гістарычнай навукі і энцыклапедыстам, але і адным з заснавальнікаў беларускага самвыдавецтва і выдатным дзеячам нацыянальна-вызваленчага руху. «Варта вывучыць архіў вучонага, сабраць успаміны пра яго і яго эпістолярную спадчыну, каб выдаць у «залатой» серыі «Беларускага кнігазбору», — прапанаваў Скалабан. Паводле яго словаў, вучоны сказаў праўду пра беларускі народ, якую чакалі людзі.

Сябра творчага аб'яднання «Пагоня» мастак Алесь Цыркуноў прадставіў удзельнікам вечарыны сваё маляўнічае палатно, прысвечанае памяці вучонага. «У сваім творы мне хацелася прадставіць эпоху, у якой жыў і працаваў гэты вялікі чалавек», — заўважыў жывапісец. На ягоным палатне Ермаловіч адлюстраваны чалавекам, які рассоўвае цемру, адкуль выступаюць нацыянальныя сімвалы Беларусі — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». Над сцягамі чужакоў, якія жадалі заняволіць Беларусь, выява спяваючых у трубы херувімаў і анёлаў са свечкамі — сімвалаў славы і памяці.

Па словах мастака Міколы Купавы, «мы павінны падзякаваць Богу за тое, што на гэтай зямлі нарадзіўся і жыў чалавек, які адкрыў летапісную Літву». Як сказаў мастак, Ермаловіч павінен быў стаць акадэмікам і атрымаць ад дзяржавы тыя вышэйшыя шанаванні і ўзнагароды, якімі мог бы ганарыцца.

У вечарыне ўзялі ўдзел прадстаўнікі нацыянальнай культуры і навукі, прыхільнікі творчасці вучонага, пісьменніка і літаратуразнаўцы.

**М. Гаравы, БелаПАН**

 



## Вячаслаў Ніканаў: «Беларусь не лічыцца краінай, якая адпавядае еўрапейскім параметрам»

Вядомы палітолаг, прэзідэнт расійскага фонду «Палітыка» Вячаслаў Ніканаў днямі пабываў у Мінску і адказаў на пытанні карэспандэнта НАШАЙ СВАБОДЫ -- А. ГРУЗЬДЗІЛОВІЧА

***— Спадар Ніканаў, свет перажывае працэс глабалізацыі, шукае адзіны для ўсіх парадак. Якім Вам уяўляецца месца Расіі і Беларусі ў гэтым працэсе?***

— Мне лягчэй адказваць за Расію, але паколькі палітычны лёс гэтак шчыльна звязаў нашыя краіны, мае высновы сапраўды датычаць і Беларусі. На маю думку, у 21-ым стагоддзі ў свеце будуць дамінаваць тры цэнтры сілаў – ЗША, аб'яднаная Еўропа і Японія. Які шлях у гэтай сувязі абраць нашым краінам? Магчымы тры варыянты. Першы – далучыцца да аднаго з цэнтраў. Другі – развівацца на сваёй базе. Трэці – змяніць правілы сусветнай гульні, заключыўшы дамову, напрыклад, з Кітаем. Але... Інтэгравацца мы можам толькі ў Еўропу, але туды нас не пускаюць. Развівацца самастойна — няма рэсурсаў, а без інвестыцыі нічога не зробіш. Змяніць правілы гульні таксама не ўдасца – я не думаю, што Кітаю патрэбна ў хаўрусніках Расія, а Расіі – Кітай. Застаецца адзіны шлях – максімальна інтэгравацца ў розныя сусветныя структуры, у тым ліку як мага хутчэй уступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю. Але калі гэта магчыма для Расіі з яе больш-менш рынкавай эканомікай, то для Беларусі ўзнікне вялікая цяжкасць. Да таго ж, прыйдзецца адмовіцца ад адзінай мытнай прасторы, якая з'яўляецца падмуркам нашага саюза.

***— Удакладніце, калі ласка, чаму Расія і Беларусь ужо не маюць шанцаў на інтэграцыю з Еўропай? Тым больш незразумела Ваша ўпэўненасць адносна нашай краіны?***

— Так складваецца жыццё. Еўрапейскі Саюз ужо намеціў праграму свайго пашырэння на бліжэйшае дзесяцігоддзе, і, як вядома, ані Расія, ані Беларусь у ліку краінаў, якія могуць быць прынятыя, не фігуруюць. На саміце Еўрасаюза ў Ніцы, дзе абмяркоўваліся перспектывы пашырэння, Расія і Беларусь увогуле не згадваліся. Расія занадта вялікая і занадта руская для Еўрапейскага Саюза, Беларусь разглядаецца пакуль як краіна, якая яўна не адпавядае неабходным еўрапейскім параметрам. Нават калі ўявіць, што адбудзецца змена палітычнага рэжыму ў Беларусі, адносіны да яе зменяцца не адразу. Мы гэта добра бачым на прыкладзе Украіны і Малдовы, да якіх прэтэнзіяў з боку еўраструктураў не было ніколі, але іх шанцы на ўступленне ў Еўрасаюз цяпер не большыя, чым дзесяць гадоў таму. У палітыцы непрадуктыўна ставіць недасягальныя мэты. Канешне, было б добра інтэгравацца ў Еўрапейскі Саюз, але калі не прымаюць, што рабіць?..

***— Гэтак жа скептычна Вы глядзіце і на перспектывы далучэння нашых краінаў да NATO?***

— Гэта яшчэ больш немагчымая перспектыва. *NATO* пашыраецца дзе хутчэй, дзе марудней за Еўрасаюз, але пытанні далейшых хваляў пашырэння, другой, трэцяй, чацвёртай хваляў, якія цяпер абмяркоўваюцца, увогуле не прадугледжваюць уступлення Расіі і Беларусі . А сяброўства Расіі ў *NATO* настолькі можа змяніць характар гэтай арганізацыі, што яна проста перастане быць *NATO*.

***— Можна пагадзіцца з Вашым меркаваннем адносна Расіі, але Беларусь усё ж іншая краіна, не той памер, не той патэнцыял, у рэшце рэшт, няма ніякай пагрозы ўнутранага launched перапарваэ...***

— Развярнуць, магчыма, і ўдасца, але далучыць наўрад ці. Трэба разлічаць мэты, якія будзе ставіць беларускае кіраўніцтва і беларускі народ. Гэта ў першую чаргу. Ад выбару народа будзе залежаць і знешнепалітычная арыентацыя на Усход ці Захад, хаця, што да мяне, я не лічу гэтыя арыентацыі абавязкова канфліктнымі. Магчыма будаваць нармальныя адносіны і на Усходзе, і на Захадзе. Але магчымасці Беларусі нават з суперліберальным прэзідэнтам уступіць у Еўрасаюз у бліжэйшыя дзесяць гадоў мне падаюцца мінімальнымі.

***— А што Вы думаеце пра будучыя адносіны з Расіяй новага дэмакратычнага прэзідэнта Беларусі, калі такі будзе абраны? Ці бачыце шанец, што ў гэтых адносінах зьявіцца элемент канфрантацыйнасці?***

— Па-першае, не ведаю, каго абярэ Беларусь у гэтым годзе. Канешне, варта зыходзіць з таго, што Беларусь — гэта прэзідэнцкая рэспубліка з не вельмі інстытуалізаванай палітычнай структурай, адпаведна ўсё будзе залежаць у большай ступені ад асобы прэзідэнта. Відавочна пры гэтым, што альтэрнатывы палітычнаму, энергетычнаму ўзаемадзеянню паміж дзвюма краінамі няма. Нават у самага празаходняга прэзідэнта.

***— Расія зацікаўленая ў легітымізацыі свайго беларускага саюзніка, таму наўрад ці пагадзіцца на любы сцэнар прэзідэнцкіх выбараў у нашай краіне, а менавіта на такі сцэнар – недэмакратычны — арыентуецца цяперашняе кіраўніцтва. У гэтай сувязі ў нас ужо гучыць, што Расія, маўляў, вырашыла замяніць Лукашэнку на больш прывабнага для свету палітыка. Якім Вам падаецца шанец на тое, што фаварытам Расіі будзе іншы кандыдат?***

— Мне невядома, якім будзе канчатковы выбар расійскага кіраўніцтва, да таго ж варта памятаць, што Расія не маналіт, там ёсць розныя палітычныя сілы, якія будуць падтрымліваць розныя палітычныя сілы ў Беларусі. Канешне, да Аляксандра Лукашэнкі ёсць пэўныя прэтэнзіі, але ён і задавальняе многіх. Ёсць прынцып «от добра добра не ищут», і я не выключаю, што гэтым прынцыпам скарыстаюцца. Што асабіста да мяне, я пакуль не бачу сярод апазіцыі кандыдата, які змог бы перамагчы яго на выбарах. Калі ў такім жа становішчы расійскае кіраўніцтва, навошта ім ставіць на таго, хто пацерпіць паразу? Каб потым мець справу з чалавекам, супраць якога выступалі? Гэткую палітыку я б назваў надзвычай не прагматычнай, а ў прагматызме Крамлю апошнім часам не адмовіш.

"Наша Свабода"

---

## ЁСЬЦЬ І ТАКІЯ ПАГЛЯДЫ...

На двары — першы год трэйцяга тысячагодзьдзя. Магчыма, вырашальны для нашае нацыі і нашае дзяржавы. Якім ён будзе — залежыць толькі ад нас. Беларусы пакаштавалі ў мінулым стагодзьдзі і камуністычна-інтэрнацыяналістычнага і дэмакратычна- касмапалітычнага ладу. У 90-я гады дэмакратыя стварыла для нас праз выбары псэўданацыянальную эліту, заснаваную не на адданасьці свайму народу і краіне, не на прынесеных ахвярах, а на здрадзе народным каштоўнасьцям, на беззаконнасьці, на хабарніцтве, на пабудове ўласнага дабрабыту шляхам крадзяжу і гвалту.

Такая "нацыянальная эліта", калі яна будзе і далей кіраваць краінай, прывядзе да зьнішчэньня Беларускае Дзяржавы.

Такім чынам, беларускі народ сёньня стаіць перад тварам адной праблемы, ад якой залежаць усе астатнія. Гэта замена хвальшывае эліты на сапраўды нацыянальную, што пакладзе ў падмурак новага ладу шчырасьць, працавітасьць, справядлівасьць і гонар — тое, чым спрадвеку вызначаўся наш народ.

Хто і як павінен зрабіць гэтую замену? Відавочна, што гэта па сіле толькі спрадвечнаму валадару гэтае зямлі — беларускаму народу. Як? — Як заўгодна, толькі не праз выбары. Прыхільнікі могуць знайсьціся для любых "ідэяў", як і выбаршчыкі для любога кандыдата. Аднак гэта залежыць не ад разуменьня людзьмі гэтых "ідэяў", "законаў" і "кандыдатаў", а ад чагосьці зусім іншага — ад тых хітрыкаў і выдумак, на якія пойдзе "змагар за народнае шчасьце", каб заваяваць сабе прыхільнасьць людзей.

Сёньня мы бачым як за нашыя галасы змагаюцца аднолькава варожыя антынацыянальныя сілы — былая партнамэнклятура на чале з Лукашэнкам і тая-ж былая партнамэнклятура, што не змагла ўтрымаць уладу і перайшла ў лягер дэмакратаў. Пры перамозе любой з іх нас чакае яшчэ колькі год рабства. Ні дэмакраты — заходнікі, ні прамаскоўскі ўрад ніколі нічога не рабілі і наўрад ці зробяць хоць каліва на карысьць нацыі і дзяржавы — яны служаць толькі сваім гаспадарам.

Шлях замены прадажнае чужынскае эліты на беларускую ў такіх варунках адзіны — нацыянальна-вызвольнае паўстаньне, рэвалюцыя, якая пры шырокай народнай падтрымцы прывядзе да вяртаньня страчанае веры, аднаўленьня старадаўніх традыцыяў нашых продкаў ды ўсталяваньня спрадвечнага ладу на нашай зямлі...

'Рубон'

---

# Каму верыць?

Гляджу тэлевізар. Слухаю радыё. Чытаю газеты. І ажно згінаюся пад навалай заяў, абвінавачанняў, выкрыванняў, каментарыяў, прагнозаў, якія штодзённа літаральна абрынаюць на мяне ўсе гэтыя афіцыйныя і неафіцыйныя, дзяржаўныя і так званыя незалежныя сродкі масавай інфармацыі. Часамі здаецца, што фізічна адчуваю, як пухне галава і крадуцца ў душу разгубленасць і трывога. І хіба можа быць іначай? Адны палітыкі, прыціснуўшы да самага сэрца вялікую валасатую далонь, пераконваюць, што дэмакратыі ў Беларусі ажно залішне. Другія ж, даверліва зазіраючы ў вочы, сцвярджаюць, што грамадства наша зусім задыхаецца ў жалезных абручах дыктатуры і беззаконня. Адны журналісты, гнеўна зрываючыся на базарную істэрыку, патрабуюць заўтра ж прыцягнуць да судовай адказнасці платных агентаў ЦРУ і НАТА, што акапаліся ў БНФ і ў Хельсінкскім камітэце. Другія, ківаючы на Канстытуцыю і гісторыю, засцерагаюць ад подлага гандлю незалежнасцю і будучыняй Бацькаўшчыны... А колькі ў розных артыкулах і перадачах "драбнейшых" канфліктаў і спрэчак, колькі там дутых сенсацыяў і нават свядомых правакацыяў!..

Зусім нядаўна грозны палкоўнік з Адміністрацыі кіраўніка краіны выявіў чарговага небяспечнага "шпіёна", які ў вольны ад служэння "рынкаваму сацыялізму" час складаў, аказваецца, праекты пастаноў... кангрэса ЗША. Гэты "не наш" Штырліц, калі верыць празорліваму выкрывальніку, займаў высокі кабінет у старанна ахоўваемым доме па вуліцы Карла Маркса,38 у Мінску, каб нанесці каварны ўдар па саміх асновах палітычнай стабільнасці ў РБ. Праўда, выведзены на чыстую ваду "дыверсант-пратэстант", былы чыноўнік той жа Адміністрацыі, трошкі раней на поўным сур'ёзе паведаміў чытачам некалькіх газет, што ягоны абвінаваўца — бяздарны камандзір "пятай калоны" і прафесійны правакатар... Вось і разбярыся, хто з іх абаронца чысціні ідэалагічных шэрагаў, а хто замаскаваны падрыўнік і здраднік.

Дзіўная вымалёўваецца сітуацыя: два чалавекі гавораць зусім рознае, а рассудзіць іх няма каму. Ніхто не нясе ніякай адказнасці за няпраўдзівую, неаб'ектыўную інфармацыю (а ў адной ж з іх яна, як ні круці, такая!). Атрымліваецца нейкі загадкавы "разгул дэмакратыі". Асабліва незразумелай уяўляецца мне пазіцыя дзяржаўных СМІ, штатных "чэсных" журналістаў. Бо ўрэшце, што ты возьмеш з "жоўтай прэсы", з апазіцыйных "разбойнікаў пяра і мікрафона". У іх, як кажуць, — групавыя інтарэсы, неканструктыўныя мэты. А за "дзяржаўнікамі", як гэта ўсім ясна, стаіць улада, іхнія выказванні вельмі часта зусім блізка мяжуюць з афіцыйнымі заявамі і ацэнкамі. І таму шчыра бянтэжышся, калі чуеш ад іх то пра запасы ракетнага ўрану на нашых складах, то пра падрыхтоўку ў суседніх краінах тэрарыстаў-баевікоў для будучых дыверсій супраць нашай краіны, то пра вагоны даляраў з-за акіяна для "ворагаў рэжыму". Прытым не даецца ніякіх пацвярджэнняў гэтых сенсацыйных паведамленняў канкрэтнымі фактамі, бясспрэчнымі дакументамі, неабвержнымі сведчаннямі: а можа, гледачы, слухачы ці чытачы і так павераць, "праглынуць" і гэтую неабскубленую шэрую

 

балотную “вутку”...

Глядзіш, слухаеш, чытаеш такое — і міжволі закрадваецца крамольная думка: а што, калі гэта ўсё некаму трэба? Ясна, што не дзяржаве, бо, як сведчыць гісторыя, ніводная краіна на хлусні і правакацыях доўга пратрымацца няздольная. Наша Беларусь і ў гэтым, вядома, — не выключэнне. Дык, можа, гэта трэба некаторым дзяржаўным чыноўнікам, каб заблытаць як мага болей людзей, дэзарыентаваць іх і пад прапагандысцкі шум пазбегнуць персанальнай адказнасці за эканамічны крызіс, правалы ў міжнароднай палітыцы, падзенне маралі? Чаму б і не?

Калі знікае адчуванне праўды, калі навокал пануе нахабная беспакаранасць уладных сіл і асоб, калі недавер да надрукаванага і сказанага слова раз’ядае тваю ўпэўненасць у заўтрашнім дні, — непазбежна губляецца звычка і здольнасць самому аналізаваць факты і падзеі, супастаўляць меркаванні, а значыць і вызначаць сваю чалавечую і грамадзянскую пазіцыю, актыўна ўмешвацца ў жыццё грамадства і краіны. Разгубленай, замбіраванай “масай” лёгка кіраваць нават маладасведчаным і прымітыўным дэмагогам і папулістам. Так што самыя неверагодныя чуткі, самыя фантастычныя выдумкі, самыя фальшывыя абвінавачванні могуць вельмі своечасова ўпасці на плодную, умела разрыхленую журналістамі і палітыкамі глебу людской даверлівасці і няведання...

Заўтра зноў у вашы паштовыя скрынкі ўкінуць “Народную газету” і “Народную волю”, у эфір выйдуць “Размова па-сутнасці” Беларускага радыё і “Пражскі акцэнт” радыёстанцыі “Свабода”, “Рэзананс” Беларускага тэлебачання і каментарый радыё “Рацыя” — і прапануюць яны вельмі непадобныя, а то і супрацьлеглыя версіі навін, і ацэняць зусім па-рознаму вядомых палітыкаў і апошнія статыстычныя справаздачы, і напалохаюць або ўсцешаць грунтоўнымі заключэннямі тытулаваных экспертаў... І зноў у вельмі многіх узнікне сакраментальнае пытанне: каму верыць?

Дык вось верыць, як мне думаецца, трэба ўласнаму жыццёваму вопыту, відавочным фактам, сямейнаму бюджэту і сумленным, кампетэнтным прафесіяналам, якія ўмеюць спакойна і некан’юнктурна рабіць сваю будзённую справу. Тады ніякі лісліві “піяршчык” і нахабны папуліст вас не абдурыць.

“Беларускі Час” Генадзь БУРАЎКІН.

=====================================

## БЕЛАРУСЫ МУРМАНСКАЙ ВОБЛАСЬЦІ ХОЧУЦЬ ВЯРТАЦЦА НА РАДЗІМУ

Беларусы Мурманскай вобласьці напярэдадні прыезду зь Менску высокага начальства спрабавалі чарговы раз зьвярнуць увагу на праблему перасяленьня на гістарычную радзіму. Вось што паведаміў нашаму радыё кіраўнік суполкі беларусаў у гэтым расейскім рэгіёне Станіслаў Дашчынскі:

(Дашчынскі:) "Нас у Мурманскай вобласьці 38 000 беларусаў. Пытаньне перасяленьня туды, дзе мы нарадзіліся, для многіх вельмі надзённае. Найперш для тых, хто мае пэнсійны ці перадпэнсійны ўзрост.

Тут вельмі цяжкія кліматычныя й пабытовыя ўмовы. Ніхто з нас ня мае тут, як на бацькаўшчыне, прысядзібных участкаў ды агародаў. Людзі ў Мурманскай вобласьці жывуць толькі на заробкі ці пэнсію. Вось чаму вельмі многія хочуць пераехаць", — паведаміў мне Станіслаў Дашчынскі, ураджэнец Круглянскага раёну.

Паводле ягоных словаў, зараз беларусы вяртаюцца на радзіму толькі прыватным чынам — няма перасяленьня арганізаванага. Калі кіраўнікі Расеі й Беларусі абвясьцілі пра інтэграцыю, ва многіх зь іх узьніклі спадзяваньні на перамены. Але, як высьвятляецца, гэта было ілюзіяй. Урадавая дэлегацыя Беларусі на чале з Уладзімерам Ярмошыным распачала візыт на поўнач Расеі, у Мурманскую вобласьць, дзе жыве шмат этнічных беларусаў. Многія зь іх імкнуцца вярнуцца на радзіму, аднак на гэтым шляху не знаходзяць падтрымкі ні расейскіх, ні беларускіх уладаў.

# “НЕ ПРОЙДЗЕ І ПАЎГОДА...”

Сёння на Беларусі склалася дзіўная карціна: большасць людзей упэўнена, што Лукашэнку трэба мяняць, але гэтая большасць лічыць, што яна — меншасць. Чаму? Таму, што кожны асобны чалавек баіцца размаўляць пра палітыку, баіцца, што тэлефон слухаюць, што недзе побач знаходзіцца стукач ці проста скандаліст-лукашыст, баіцца, што калі пойдзеш на нейкі там апазіцыйны мітынг, дык трапіш у аб’ектыў міліцэйскай відэакамеры і потым табе нешта кепскае зробяць... І атрымліваецца, што агульны страх трымае нармальных, сумленных людзей у такіх ланцугах, што яны ўжо наперад вырашылі: няма чаго на гэтых выбарах лавіць, Лукашэнка ўсё роўна выніі сфальсіфікуе, якія захоча лічбы намаляваць — такія і намалюе і кіраваць яму намі, пакуль не памрэ. Нічога мы зрабіць не можам, доля наша — сядзець у хаце і толькі зрэдку, за бутэлькай, самнасам с надзейнім сябрам ціха мацюкаць жыццё. Зламаць падобны настрой можна толькі адным шляхам — зразумець, што легальна і мірна змяніць сітуацыю, выйграць ў Лукашэнкі на выбарах **можна**! І гэта нават не так цяжка...

Пачнём з таго, што не трэба баяцца начальнікаў. Ваш канкрэтны шэф можа агітаваць за Лукашэнку, трэсці перад носам пальцам, калі пачуе нейкія крамольные размовы, але... Усё гэта робіцца з-за таго ж страху: начальнік — такі ж чалавек, які таксама спалоханы, што, калі не “прыме мераў”, дык нехта на яго “настукае”. А вось сацыялагічныя апытанні паказваюць: 80% кіраўнікоў — міністэрскіх і выканкамаўскіх чыноўнікаў, дырэктараў заводаў, старшынь калгасаў — настроены рэзка супраць сённяшняга “боса” краіны. Гэтыя людзі заўтра павінны будуць “арганізаваць” выбары так, каб перамог Лукашэнка. Асабістага жадання нешта махляваць, фальсіфікаваць у іх абсалютна няма. Але — ёсць страх: калі не выканаю сакрэтны загад “зверху” забяспечыць патрэбныя лічбы, дык... Па шапцы надаюць, з работы выганяць — і ўсё адпаведнае... У адказ ёсць, напрыклад, такі варыянт. Вопыт “рэферэндуму”, вопыт мінулагодніх выбараў у “палатку прадстаўнікоў” паказвае — на тых участках, дзе прысутнічалі назіральнікі, фальсыфікацыі не адбылося, і вынікі галасавання былі прызнаныя несапраўднымі. А ў начальства, у сваю чаргу, быў аргумент: я нічога не мог зрабіць, гады- апазіцыянеры ўвесь участак абселі, як мухі, кроку ўправа-ўлева не давалі зрабіць, за ўсім сачылі, ўсё запісвалі — рэжце, судзіце, я ні ў чым не вінаваты! Між іншым — чыстая праўда.

Вось і першая задача для дэмакратычных сіл — забяспечыць абсалютны, **татальны** кантроль за выбарамі. Зараз ідзе масавы набор назіральнікаў. Усяго трэба іх каля 20 тысяч — лічба рэальная. Сетка падрыхтоўкі назіральнікаў, іх абучэння ўжо створана.

Наступны накірунак дзеянняў — агітацыя. Зразумела, што асноўную інфармацыю людзі (асабліва на раёнах) сёння атрымліваюць ад Беларускага тэлебачання. Кім яно кантралюецца, на каго будзе працаваць — зразумела. Зразумелыя і пытанні: ну дык каго ж дэмакраты прапануюць замест Лукашэнкі?

Замест Лукашэнкі беларуская апазіцыя сёння прапануе дзве кандыдатуры — лідэра аб’яднання “Рэгіянальная Беларусь”, былога гродзенскага губернатара Сямёна Домаша і старшыню Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларускай Ула-дзіміра Ганчарыка. Калі заўгодна — лічыце іх адзіным кандыдатам з прозвішчам Домаш-Ганчарык (ці Ганчарык-Домаш). Адзіным — бо паміж гэтымі дзвюма асобамі ўжо дасягнута дамоўленасць: калі падчас выбарчай кампаніі высвятляецца, што нехта з іх мае перавагу, адразу вызначаецца, хто ў гэтай звязцы №1, а хто №2. Дакладна гэта будзе аб’яўлена недзе ў маі па выніках сацыялагічных даследаванняў і з улікам абстаноўкі на той момант. А ўвогуле і Домаш, і Ганчарык ідуць на выбары адзінай камандай, з практычна адзінымі лозунгамі, абапіраюцца на адзіныя сілы і не канкуруюць, а дапамагаюць адзін аднаму.

Натуральна, глупствам было б разлічваць, што ў прапагандзе кандыдатаў ад апазіцыі ёсць сэнс разлічваць на дапамогу БТ, радыё, дзяржаўнай прэсы. Нас вымушаюць рабіць стаўку на іншыя сродкі — незалежны друк, лістоўкі, агітацыю “з вуснаў ў вусны”. Ці будуць улады перашкаджаць, ставіць палкі ў колы? Зразумела! Што ж — чым шырэйшыя будуць рэпрэсіі, тым больш будзе міжнародны рэзананс, тым глыбейшай стане яма, якую рэжым сабе капае. Рэжыму надта рызыкаваць таксама не на карысць.

Але ёсць галоўнае пытанне — дзеля чаго апазіцыя дабіваецца змены ўлады?

Важна разумець: пасля перамогі кіраваць краінай будуць не палітыкі, не БНФ ці АГП, не лідэры іншых партый... Мы жадаем прывесці да руля нармальных прафесіяналаў — эканамістаў, юрыстаў, эколагаў, гаспадарнікаў... Шмат хто з гэтых людзей і зараз працуе ў Саўміне, у “вертыкалі”, у іншых уладных структурах — але ў іх звязаныя рукі, яны заложнікі дурнога сённяшняга кіраўніцтва. Тым не менш зараз яны ўжо рыхтуюць планы рэформаў — мяккіх, паступовых, аднак жыццёва неабходных Беларусі. Прадбачу пытанне: “Ну добра, дабіліся вы перамогі... Але ж Лукашэнка ўсё роўна не аддасць улады! Выдумае тысячы адгаворак, кіне на вуліцы войскі і міліцыю — і не аддасць! Што тады?”

Тады — міжнародны ціск. Прычым не толькі з боку Захаду (тут усё зразумела), але і з боку Расіі. Трэба разумець асаблівасці нашых сённяшніх адносінаў з Расіяй. Крамлёўскаму кіраўніцтву зараз патрэбны ў Мінску не скандальна вядомы “лепшы сябра”, які без запрашэння шастае ў Маскву і лезе са сваімі парадамі, а спакойны, добразычлівы, рэспектабельны партнёр па бізнесу, партнёр, з якім можна без залішніх эмоцый абмяркоўваць і рэалізаваць сумесныя ўзаемавыгадныя праекты — гандлёвыя, эканамічныя, знешнепалітычныя... Зірніце на Пуціна — гэта не столькі палітык, колькі менеджэр, дзелавы чалавек. А Лукашэнка — не дзелавы чалавек. Доказ? За сем гадоў большасць рэальных так званых “інтэграцыйных дамоўленасцяў” па яго-най віне пасняхова правалены, замест Лукашэнка гоніць нейкія “дэкады культуры”, енчыць наконт “славянскага адзінства”, вярзе іншую лухту. Рэакцыя расійскага бізнесу на Лукашэнку адзіная: працаваць з ім немагчыма, дагаворы парушае, рэпутацыя ў свеце такая, што прызнацца ў кантактах небяспечна...

Расія, зразумела, не стане адкрыта лезці ў беларускую прэзідэнцкую кампанію. Яе пазіцыя падкрэслена нейтральная: “Мы згодны паважаць любы выбар беларускага народа”. Лукашэнку яны таксама прызнаюць — у выпадку, калі ён пераможа сумленна. Але перамогу, атрыманую за кошт падробак, яны прызнаваць не могуць. Сабе даражэй...

А якой павінна быць наша рэакцыя на магчымую фальсіфікацыю вынікаў? Адпаведна — масавыя акцыі пратэсту. Масавыя, жорсткія — але пры гэтым мірныя. Бо гэта таксама адна з асаблівасцяў сённяшняй тактыкі апазіцыі: стаўка на негвалтоўныя метады барацьбы. У краіне зараз ёсць адзіны чалавек, які не спыніцца перад праліццём беларускай крыві — Лукашэнка. Мы кроў сваіх братоў — якую б форму яны не насілі — ліць не намераны. Таму калі падчас чарговай масавай акцыі вы ўбачыце мажных дзецюкоў, якія кідаюць камяні, чапляюць міліцыю — ведайце гэта правакатары. А пазіцыя нашай моладзі... Вы яе бачылі нядаўна — у Дзень міліцыі члены Маладога фронту абыходзілі РАУСы і з кветкамі віншавалі іх супрацоўнікаў з прафесійным святам. Тут, дарэчы, ніякіх хітрыкаў. Проста нам вядомыя звесткі з “сілавога” асяроддзя: пераважнай большасці міліцыі, вайскоўцаў і нават частцы афіцэраў спецслужбаў Лукашэнка актыўна не падабаецца. Калі так — навошта з імі сварыцца? Ды і ўвогуле, калі чалавек робіць складаную і карысную справу, ловіць жулікаў, змагаецца з наркотыкамі, забяспечвае спакой на вуліцах — чаго яму палохацца падзення рэжыму? Чым займаўся — тым і будзе займацца...

...Тым больш, што чакаць гэтага падзення засталося нядоўга. Як спяваў Высоцкі, “Не пройдзе і паўгода...” паводле “Рабочы”

**Мы змагаемся**
**за беларускую БЕЛАРУСЬ!!!**

Сямён Мікалаевіч Домаш - былы старшыня Гарадзенскага аблвыканкама. Адзіны з губэрнатараў, які адкрыта перайшоў на бок беларускай апазіцыі. Адзін з мажлівых кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах.



# Сямён Домаш пра палітыку і не толькі...

**...Проста ў такой сітуацыі мы лічым сваім маральным абавязкам зрабіць тое, што па логіцы павінны зрабіць дзяржаўныя СМІ, якія ўтрымліваюцца на грошы падаткаплацельшчыкаў (і, такім чынам, абавязаныя быць аб'ектыўнымі): даць выказацца аднаму з патэнцыйных кандыдатаў на прэзідэнцкую пасаду.**

***- І ўсё-ткі Вас, Сямён Мікалаевіч, пакуль меней чым іншых «дзяўбуць». Як думаеце, чаму?***

- Відаць, чарга не дайшла. Ці кампрамат яшчэ не накапалі. Яны ж адкрытай размовы баяцца, аддаюць перавагу правакацыі спадцішка. А не знойдуць нічога - прыдумаюць.

***- Значыць, удараў чакаеце?***

- Асабіста я па ўсіх пазіцыях чысты. Ну, была гісторыя з домам, з-за якой маё імя доўга бузавалі, але ж абвінаваціць у нейкіх учыненых мною парушэннях так і не здолелі. (У бытнасць старшынём Гарадзенскага аблвыканкама Домаш са сваёй сям'ёю па патрабаванні органаў КГБ і МУС, што ажыццяўлялі яго ахову, здаў гораду сваю раней прыватызаваную кватэру і перасяліўся ў дом. Калі Лукашэнка пазбаўляўся ад чыноўнікаў, на якіх не мог разлічваць асабіста, гэтая гісторыя Сямёну Мікалаевічу была пастаўленая ў віну. І хаця высветлілася, што да самога Домаша прэтэнзіяў быць не можа - шэпт застаўся: ці то ён шубу скраў, ці то ў яго скралі... - **заўв. рэд.**). Не, шчыра кажучы, калі зноў гісторыю з домам вывалакуць, можна толькі радавацца - значыць, усё ў парадку: ні па мне, ні па маіх сваяках больш зачапіцца ні за што не здолелі. І давядзецца ім нешта з пальца высмоктваць. А я... Мне за сваё жыццё не сорамна.

## «Мне за жыццё не сорамна...»

***- Ну тады давайце «за жыццё» і пагаворым. Вы нарадзіліся ў 1950 годзе ў Берасцейскай вобласці, у Ляхавіцкім раёне...***

- ...у вёсцы Тумашы. Бацькі - шэраговыя калгаснікі, працаўнікі надзвычайныя... Бацька займаўся цяслярствам. Ён з фронту прыйшоў інвалідам, увесь зранены, без вока, але майстрам быў цудоўным. Грошай вялікіх у калгасе не плацілі, выручаў сад - бацькоўскімі намаганнямі кожны год збіралі выдатныя ўраджаі. І потым бацька аж да Масквы дабіраўся, яблыкі прадаваў. Усё, што зарабляў, адкладалася на новы дом, бо наша хата зусім развальвалася. Вельмі доўга адкладвалася, па капейчыне. Нарэшце - я тады быў у шостым класе - пачалі будавацца. Гэта галоўны ўспамін дзяцінства - мы разам з бацькам будуем дом! Вельмі цяжкая, з салёным потам, але радасная праца. Я практычна ўсё навучыўся рабіць. Пазней куды б ні першыў - ні сантэхнікаў, ні сталяроў-маляроў ні разу не клікаў. Любая хатняя справа - сваімі рукамі. І сыноў таму ж навучыў.

Бацькоўскі дом дагэтуль адзін з лепшых у вёсцы. Бацька, на жаль, ужо год як памёр. Маці старэнькая, часта хварэе, жыве ў сястры ў Баранавічах, але ўлетку мы яе ў Тумашы прывозім. І, як веснічкі адчыняю, мне кожны раз падаецца, што на падворку зноў пахне свежай смалістай стружкай.

***- А што было потым?***

- Пасля школы я паступіў у Бабруйскі аўтатранспартны тэхнікум. Вучыўся на механіка па рамонту аўтамабіляў. Там жа навучыўся абараняць сябе, боксам заняўся. Бабруйск жа тады быў даволі хуліганскім горадам.

Скончыў тэхнікум, паехаў па размеркаванні ў Астравец, што ў Гарадзенскай вобласці. Механікам аўтабазы N4. Увогуле працаваў там больш за восем гадоў. У Астраўцы і ажаніўся, жонка ў Доме культуры працавала. Дваццаць гадоў мне было...

* * *

Я лічу, што КПСС загубілі дзве рэчы: празмерная цэнтралізацыя ды канцэнтрацыя ўлады і ваяўнічы атэізм. Цэнтралізацыя ўлады прывяла да таго, што сістэма стала абсалютна нягнуткай. Партыя дыктавала ўсё і ўся. Пакідала за сабою канчатковае рашэнне па любому пытанню. Задачы ставіліся недзе наверсе, у ЦК, і пад-ля-га-лі няў-хіль-наму выкананню - нават, калі яны былі ня-пра--віль-ны-мі. Кантраляваў выкананне ўсё той жа партыйны апарат. Але хто загадвае, хто прымушае працаваць, той і адказвае - так? У выніку людское нездавальненне супраць партыі ж і скіроўвалася. Пры гэтым партыйная вярхушка ўсё больш адрывалася ад рэальнага жыцця, ператваралася ў нейкіх «жыхароў неба», замкнёную касту, якая жыла ў лепшых дамах, адпачывала на асобных летніках... Плюс каласальная ідэалагічная эрозія. У ранейшыя ідэалы ўжо ніхто не верыў, камуністычныя святыя ператвараліся ў персанажаў анекдотаў. Тут бы вярнуцца да тых вечных каштоўнасцяў, якія прапануе рэлігія, - усё роўна за тысячы гадоў чалавецтва нічога лепшага не вынайшла. Аднак увесь прагандысцка-ідэалагічны апарат з тупой упартасцю працягваў абслугоўваць непрацуючыя міфы. Ці трэба здзіўляцца, што наспеў крызіс?

***- Калі Вы асабіста ўсё гэта пачалі разумець?***

- Я нармальны чалавек, і да сваіх сённяшніх думак ішоў вельмі доўга. Іншая справа, што ўсведамленне нейкіх рэчаў пачалося ў той жа партшколе. Там было некалькі выкладчыкаў, якія... Не, лекцыі яны чыталі тыя, што належала. Але ў перапынках, у прыватных гутарках, выказваліся досыць вольна. Некалькі мімаходам кінутых словаў вымушалі задумацца. А што датычыць атэізму... У мяне бацька і маці - цудоўныя людзі, пры гэтым глыбока веруючыя. І я заўсёды разумеў, што іх мараль грунтуецца на рэлігіі. «Бог дазваляе...», «Бог забараняе...», «не рабі людзям зла», «абыходзься з людзьмі так, як хочаш, каб абыходзіліся з табой»... А нам казалі, што гэта прыкмета адсталасці, перажытак...

***- Але ж Вы самі на партыйную работу пайшлі.***

- Пайшоў. Пад пісталетам ніхто не гнаў, але быў загад, і я яму падпарадкаваўся. Тады я ўжо жыў у Гродне, камандаваў там аўтакамбінатам N1 - між іншым, адным з буйнейшых у рэспубліцы. Справы ішлі досыць няблага. І вось, у 1982 годзе мяне нечакана выклікаюць у гаркам і кажуць: маўляў, прынята рашэнне.., Вы добры кіраўнік.., зноў жа партшкола за плячыма.., увогуле з такога-та чысла мы Вас зацвярджаем у сябе ў якасці загадчыка прамыслова-транспартнага аддзела гаркама партыі. Я - пык-мык, а мне: так трэба.

На самой справе, мая партыйная служба была не столькі партыйная, колькі проста гаспадарчая. І калі з загадчыка аддзела гаркама мяне выбралі другім сакратаром Кастрычніцкага райкама ў Гродне, то курыраваў тую ж прамысловасць, транспарт, сферу абслугоўвання... Вельмі спатрэбілася, калі ўзначаліў гарвыканкам у Лідзе: праблемы гарадской гаспадаркі ўжо былі добра знаёмыя...

***- Вы былі выдатна ўпісаныя ў тагачасную сістэму. Мабыць, крушэнне Савецкага Саюзу стала для Вас трагедыяй?***

- Тут не трагедыя, тут іншае... Адчуванне, што адыходзіць нешта звыклае, без чаго спярша давядзецца вельмі цяжка, але зрабіць нічога не можаш, натуральная хада падзеяў, інакш нельга... Не паверыце, але гаспадарнікі, накшталт мяне, хісткасць той сістэмы разумелі лепей за іншых. Ну не можа ўстаяць дзяржаўная канструкцыя, дзе немагчыма нават цэглу пакласці без дазволу з Масквы! Аднак адганялі ўтрапёныя думкі, працавалі, як маглі... Але прыйшоў Гарбачоў, перабудова... Усё імпэтна пасыпалася. Ці мог быць разлом не такім адчувальным. Напэўна, мог - калі б крамлёўскае кіраўніцтва прапанавала іншую схему дзяржаўнага кіравання. Вось ЗША - вялізная краіна. Пры гэтым стройная юрыдычная схема: федэральныя законы..., законы штата...ў кожнага свае, прынятыя з улікам мясцовых умоваў.., мясцовае самакіраванне... І ніхто не хоча адасабляцца! Не выключана, што і ў нас усё пайшло б інакш, калі б у патрэбны момант рэспублікам далі крыху болей волі. Гэты варыянт, я ведаю, калісьці прапаноўваў Маскве Бразаускас: некалькі галоўных накірункаў - такія, як абарона, знешняя палітыка, энергетыка, экалогія, транспарт, космас - у падначаленні саюзнага кіраўніцтва, а астатняе аддаць на месцы. Не прынялі. У выніку адасобіліся Літва, Грузія, потым астатняя Прыбалтыка. І пакацілася... Хаця, канечне, заднім розумам усе моцныя. Тады супалі пікі некалькіх крызісаў: ідэалагічнага, палітычнага, эканамічнага... Узгадайце павальны дэфіцыт у магазінах, прыгадайце момант, калі ў Саюзе элементарна грошай не хапала, і кожная рэспубліка пачала друкаваць свае «разліковыя білеты». Не з распаду ж СССР пачаўся эканамічны крызіс, а наадварот - падзел вялікай дзяржавы быў спробай «разруліць» сітуацыю, знайсці нейкае рашэнне.

***- І, тым не менш, Вы зараз змагаецеся за інтэграцыю з Расеяй...***

- Так. За ўсямерную і максімальную эканамічную інтэграцыю з Расеяй. Не трэба думаць, што апрача Лукашэнкі, ніхто не бачыць, дзе нашыя галоўныя дзелавыя партнёры, дзе нашыя самыя перспектыўныя рынкі. Але я катэгарычна супраць адзінай дзяржавы. Гэта танны палітычны жэст, які закладае міну і пад Беларусь, і пад Расею. Так, народы-браты. Але, паслухайце, колькі можна братам жыць у адным пакоі? Яны выраслі, пасталелі, у кожнага свая сям'я, дзеці... Тут ужо сумеснае пражыванне аднойчы можа ўзарвацца такім скандалам - навекі пасварацца! Іншая справа, калі ў кожнага свой дом, і абодва адзін аднаму дапамагаюць. Расейска-беларускія адносіны павінны будавацца на прынцыпах традыцыйнага добрасуседства, узаемапавагі ды здаровага сэнсу. Напрыклад, дзве суверэнныя краіны распрацоўваюць агульную праграму вырашэння экалагічных праблемаў. Ці разам вырашаюць задачу сацыяльнага забеспячэння пенсіянераў... Пра эканамічнае супрацоўніцтва і казаць няма чаго... Але ўсё гэта - без страты нашай незалежнасці!

## Пра наша жыццё

***- Што Вы лічыце галоўнай праблемай сённяшніх беларусаў?***

- Прыцярпеласць. Людзі гавораць - ай, жывем жа, навошта нешта змяняць! Круцімся неяк, падпрацоўваем - усё нармальна. Але давайце паглядзім: смяротнасць у Беларусі перасягае нараджальнасць. Гэта нармальна? Усе заробкі-прыробкі ідуць на ежу, на ўнітаз. Многія ўжо забыліся, што такое тэатр, кіно, водпуск з выездам на адпачынак. Гэта нармальна? Сельская гаспадарка «ляжыць», трохі больш сонца ці дажджу летам - і ў нас пад пагрозай харчовая бяспека. Гэта нармальна? Заводы працуюць на склады, сабекошт прадукцыі зашкальвае, мы ўжо амаль нічога не можам прапанаваць заходняму рынку. Гэта нармальна? Але ж Лукашэнка ва ўладзе ўжо сёмы год! Хоць адна наша праблема за гэтыя гады вырашылася? Дык, можа, курс узяты няправільны? І калі нічога не змяняць - яшчэ глыбей у багне загразнем.

***- Як лічыце - «людзі ўлады» гэта разумеюць? А калі разумеюць - чаму нічога не прадпрымаюць?***

- Канечне, разумеюць. Але...Лукашэнка ж адраджае ў краіне тую самую савецкую сістэму, па якой многія, не ўмеючы ці не жадаючы

аналізаваць, настальгуюць. А сістэма - я ўжо казаў пра гэта - урэшце сама сябе знішчыла. Але сістэма гэтая, як у крывым люстэрку, скажоная і даведзеная да крайнасці. Тады ўсё замыкалася на ЦК, зараз - на самім Лукашэнку. Пры гэтым, ён гатовы заплюшчыць вочы на тое, што які-небудзь вертыкальшчык паціху крадзе. Няхай сабе, абы быў лаяльны! Так ствараецца вузкі пласт багатых людзей: улада, бізнесмены, якія ў яе «пад дахам», абслуга... Прывілеяванае саслоўе, як некалі партапарат. Але, крый Божа, нават самаму чэснаму чыноўніку хоць неяк абурыцца сітуацыяй у краіне! (А ўжо выявіць сімпатыі да апазіцыі - гэта наогул падпісаць сабе вырак). Любы гаспадарнік сёння аблытаны ін-струкцыямі, дэкрэтамі, забаро-намі значна болей, чым у савецкія часіны. Завесці на яго ў выпадку чаго крымінальную справу - хвілiннае пытанне. Нармальных людзей з кіраўнікоў гэта страшна раздражняе. Крадуць жа не ўсе! А адчуваць сябе на вечным кручку - прыемнага мала.

***- Можна нешта зрабіць?***

- Можна. І не трэба нічога рубіць наводмаш, дзяліць, адбіраць - гэта толькі створыць лішняе напружанне ў грамадстве. А вось пачаць аслабляць аброць, даваць не толькі «сваім», але і ўсім астатнім новыя, легальныя і чэсныя магчымасці зарабляць - цалкам рэальна. І пакінуць, нарэшце, палохаць людзей Захадам! Трэба пакінуць шукаць ворагаў як у сябе ў краіне, так і за яе межамі.

***- У тым жа «Рэзанансе» прагучала, што Домаш на выбары ідзе ад БНФ...***

- Аднак я ў газетах чытаў што ад БНФ будзе вылучацца Пазьняк. А зрэшты, колькі можна тлумачыць: Домаш - не з БНФ. Домаш ідзе на выбары як незалежны кандыдат, якога вылучае аб'яднанне «Рэгіянальная Беларусь», зусім іншая структура. Іншая справа, калі да мяне прыходзяць людзі з Фронту ці з іншых партыяў і кажуць: «Сямён Мікалаевіч, мы гатовыя Вас падтрымаць!» - я іх што, гнаць павінен?

***- Як думаеце, Вашыя тэлефоны праслухоўваюць?***

- Не сумняваюся. І не толькі тэлефоны. Але мне баяцца няма чаго, я законаў не парушаю...

**Мы знарок не закраналі ў размове праграму, з якой Сямён Домаш хоча пайсці на выбары. Навошта наперад забягаць? Прэзідэнцкая кампанія яшчэ не распачатая ды і ці будзе яна? Проста дадамо яшчэ нейкія дэталі, што засталіся за рамкамі гэтага інтэрв'ю.**

**Домаш ганарыцца тым, што ўжо шмат гадоў трымае сталую вагу - 86 кілаграмаў: «Мужчыну жывот распускаць не пасуе». Быць у форме дапамагае рэгулярная атлетычная гімнастыка з абцяжарваннямі. Не курыць. Часта чытае Біблію. З фільмаў, якія апошнім часам бачыў, вельмі спадабаўся «Гладыятар».**

Гутарку вёў

Сяргей Манастырскі

(газэта «Рабочы»)

*********************************************

## НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЯ АЎТАНОМІЯ БЕЛАРУСАЎ СТВОРАНАЯ Ў ПЕЦЯРБУРЗЕ

**У Санкт-Пецярбурзе створаная нацыянальна-культурная аўтаномія беларусаў. Яе заснавальнікамі выступілі грамадзкія арганізацыі "Беларуская грамада Санкт-Пецярбургу і Ленінградзкай вобласьці", "Беларускае зямляцтва" і інш. Санкт-Пецярбург -- другі горад у Расеі па колькасьці этнічных беларусаў. Аўтаномія ставіць перад сабой задачы захаваньня традыцыяў беларускай культуры, разьвіцьця культурных сувязяў, забесьпячэньня інфармацыйным абменам, арганізацыі сацыяльнае дапамогі і інш. Дзейнасьць гэтай грамадзкай арганізацыі адпавядае фэдэральнаму закону "Аб нацыянальна-культурнай аўтаноміі", прынятаму ў 1996 годзе. Закон скіраваны на задавальненьне моўных, культурных і адукацыйных патрабаваньняў народаў, этнасаў і этнічных груп. Паводле яго прадугледжваецца фінансаваньне такой дзейнасьці са сродкаў ня толькі ўласных, але і фэдэральнага, рэгіянальнага і мясцовага бюджэтаў.**

# Гонар і слава Беларусі



Сёлета спаўняецца 885 гадоў з часу за- снавання Навагрудка. З гэтым старажытным горадам звязана нараджэнне адной з самых магутных краін сярэднявечча — Вялікага княства Літоўскага, беларускай дзяржавы.

## Пачатак

Першыя гістарычныя згадкі пра Наваградак сустракаюцца ў Сафійскім летапісе пад 1044 годам: "Ходи Ярослав на Литву, а на весну заложи Новогород..." Па іншых звестках, "заснаваны ён быў Яраполкам Уладзіміравічам, сынам Уладзіміра Манамаха ў 1116 годзе". Навукоўцы схільны давяраць апошняй версіі, таму менавіта 1116 год лічыцца годам заснавання Новага гораду. Хаця раскопкі сведчаць пра тое, што горад на гэтым месцы існаваў яшчэ ў Х стагоддзі.

Наваградскі край называюць "беларускай Швейцарыяй". У гэтым куточку Беларусі цяжка знайсці роўнае месца. Паўсюль грудочкі ды выспы. Цэнтр Наваградка месціцца на вялікай гары. Самае ж вялікае ўзвышша — Замкавая гара. З яе бачна ўсё наваколле.

Гара Міндоўга з часамі асунулася, але не страціла сваёй велічы. Па паданнях, тут пахаваны кароль Міндоўг на залатым троне.

## Міндоўг

Менавіта дзякуючы Міндоўгу Наваградак дасягнуў вяршыні сваёй славы. Гэты балцкі князь прыйшоў у горад з поўначы, адкуль выгнаў іншыя князі. Міндоўг хутка асвоіўся, і яго абралі князем Наваградскім. У 1246 годзе ён, паганец па веравызнанні, ахрысціўся ў праваслаўе — веру сваіх падданых — беларусаў. Праз некаторы час ён пайшоў з наваградскім войскам на сваіх крыўдзіцеляў. Заваяваў і далучыў да Наваградка паўночныя землі — сучасную Літву. Так пачалася гісторыя Вялікага княства Літоўскага.

Пакрыўджаныя і незадаволеныя яго ўладай васальныя князі Ердзівіл, Таўцівіл і Вікінт вырашылі выйсці з-пад улады Наваградка. Яны стварылі вельмі магутную кааліцыю. Ім выказаліся дапамагчы Ордэн Інфлянцкіх рыцараў, Рыжскае арцыбіскупства і галіцка-валынскія князі. Каб сюды яшчэ далучыліся татары, дык наступ на Наваградак ішоў бы з усіх бакоў.

Міндоўг сцяміў, што адзін ён нічога не зробіць. Тады ён ахрысціўся ў каталіцтва і падараваў Ордэну частку толькі што заваяванай Жамойціі. Гэта вельмі спадабалася магістру Ордэна. Міндоўг атрымаў яго падтрымку і перамог кааліцыю. Гэта быў грандыёзны поспех наваградскага князя.

Міндоўг стаў асаблівым сынам святога рымскага Касцёлу. Вянцом найлепшых дачыненняў з Захадам была яго каранацыя: у 1253 годзе ў Наваградку Міндоўг атрымаў ад рымскага папы каралеўскую карону. Афіцыйна ягонае княства рабілася каралеўствам, што стварала падставы поўнай стабільнасці ў стасунках з еўрапейскімі дзяржавамі. Але ўжо напачатку 1260-х гадоў ён разарваў пагадненне з Інфлянцкім ордэнам, а потым і з рымскім папам ды пачаў адкрытую вайну супраць сваіх былых хаўруснікаў.

Што падштурхнула Міндоўга на такі крок? Магчыма, тое, што сам пачуваўся паганцам і ўсе ягоныя супляменнікі былі паганцамі.

Некалькі вякоў запар мы мусілі змагацца з самым моцным у Еўропе рыцарскім ордэнам — Тэўтонскім. Беларусь без усялякіх перабольшванняў можна лічыць рыцарскай дзяржавай. Ну, а самыя дужыя рыцары, натуральна ж, былі ў сталіцы — Наваградку.

Татарскія і крыжацкія зграі кожны раз разбіваліся аб муры Наваградскага замка, так ніколі і не пабываўшы ў ім.

## Замак

Існаваў замак з Х стагоддзя і да пачатку XVIII. Пабудаваны ён быў на вялікім 20-метровым узгорку. Па баках Замкавую гару акаляў роў глыбінёй 10 і шырынёй да 12 метраў. Але, каб патрапіць у яго, ворагам трэба было спачатку пералезці праз земляны вал, што ўздымаўся на шэсць метраў. Нават зараз можна ўразіцца магутнасцю гэтых фартыфікацыйных збудаванняў.

Умацаванні наваградскага замка прайшлі шлях ад працэйшай агароджы-частаколу да магутнейшага шматвежавага замка. Прычым доўгі час муры спалучаліся з драўлянымі сценамі. Пра надзейнасць умацаванняў сведчыць той факт, што вежа Шчытоўка мае фундамент вышынёй у тры метры, складзены з вялікіх камянёў памерамі больш за метр. Вонкавыя сцены былі таўшчынёю каля трох метраў.

У Наваградскім замку, размешчаным на высокай гары, калодзежа не было, але вада мелася ля падножжа, дзе білі моцныя крыніцы. Над адной з іх і была пастаўлена патаемная Калодзежная вежа, якая праслам сцяны злучалася з замкам.

У XVI стагоддзі Нава-градскі замак меў 7 веж і быў адным з магутнейшых у Беларусі і Еўропе.

## Заняпад

Лёс замка быў і лёсам усяго горада. Калі ў XVII стагоддзі замак пачаў цярпець паразы, пачаўся і заняпад горада.

Пад час вайны беларусаў з Маскоўскім княствам замак і горад цярпелі вельмі вялікія спусташэнні, але кожны раз аднаўляліся, бо яшчэ не ўся моц была страчана. Узноўлены ў 1660 годзе замак быў заняты войскамі князя Хаванскага — на гэты раз без бою: наёмны гарнізон, які не атрымаў своечасова плату за службу, адчыніў браму ворагу. Амаль увесь замак быў разбураны да падмуркаў. Канчатковы ўдар па замкавых мурах нанеслі шведы ў час Паўночнай вайны — яны ўзарвалі рэшткі замка. Але і гэта не даканала магутныя збудаванні. Некалькі сцен дзвюх вежаў дажылі да нашага часу. Іх змаганне яшчэ не скончылася. Зараз яны ўвасабляюць твар Наваградка.

З прычыны моцных разбурэнняў і спусташэнняў Наваградка сойм Рэчы Паспалітай, сумеснай польска-беларускай дзяржавы, у 1661 годзе вызваліў горад ад падаткаў на 4 гады. Але гэта не ўратавала горад і яго замак.

У царскай Расіі, якая гвалтоўна захапіла Беларусь, не клапаціліся аб ахове старажытных помнікаў ваеннага дойлідства. У канцы XIX стагоддзя на тэрыторыю замчышча праз пралом у мурах пачалі звозіць з усяго Наваградка смецце, якое пакрыла больш як двухметровым пластам руіны старажытных пабудоў.

У 1906 годзе рухнула Касцельная вежа. Дзякуючы намаганням мясцовага аматара старажытнасці Т.Корзана рэшткі вежы былі падпёрты двума эскарпамі. У гады першай сусветнай вайны абвалілася паўднёвая сцяна вежы Шчытоўкі.

Толькі ў 1921 годзе Наваградскі замак быў нарэшце ўзяты пад ахову, а ў 1922-1930 гадах праведзена частковая кансервацыя ўцалелых рэштак веж.

## Абуджэнне

Уратавала ад канчатковага скону гэты горад ягоная гісторыя. Па рашэнні ЮНЭСКА 1998 год быў аб'яўлены годам Адама Міцкевіча. Як вядома, самы плённы перыяд яго творчасці прыпадае на жыццё ў Наваградку. Міцкевіч вельмі любіў гэты горад, захапляўся ім і яго наваколлем, усляўляў у сваіх творах. Наваградак ён лічыў сваёй радзімай. З тае нагоды ў Наваградку адбылася рэстаўрацыя цэнтра.

У горадзе сабралі смецце, адрамантавалі платы ды пафарбавалі будынкі. Некаторыя нават адрэстаўравалі. Цэнтр стаў падобны на еўрапейскі ўтульненькі гарадок. Адметна тое, што гістарычная планіроўка горада амаль не змянілася. Старажытны брук, на якім, магчыма, ламаў ногі сам Міцкевіч, агаліўся пад здзёртым слоем асфальта. Але трэба было спяшацца, і ніхто не падумаў аднавіць старую брукоўку. Яе наноў залілі раўнюткім асфальтам.

З часам рэшткі замка абрастуць каменнем і цэглай, а ў Наваградак накіруюцца турысты, каб пабачыць велічныя муры так і няскоранага замка...

**Алег УЛЕВІЧ** – "Беларускі Час"

# ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ ВОЛІ – *25-га САКАВІКА*

## У НЬЮ-ЁРКУ...

Мэр Нью-Ёрку Рудольф Джуліяні і губернатар штату Нью-Ёрк Джордж Патакі аб’явілі 25-га Сакавіка днём сьвяткаваньня незалежнасьці Беларусі ў штаце і горадзе Нью-Ёрк. У сьвяце прымалі ўдзел госьці і запрашаныя асобы. Прысутныя атрымалі віншаваньні ад Васіля Быкава і Эўрапейскага Зьвязу. Уступ на сьвяткаваньне каштаваў $30.оо даль ад асобы...

## У САЎТ РЫВЭР, Нью-Джэрзі...

Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка пачалося сьв. Літургіяй і малебенем за Беларускі Народ у царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай.

Урачыстая акадэмія складалася з прынагоднага рэфэрату і мастацкай часткі ў якой узялі ўдзел кампазытары Юрка Багаткевіч і Зьміцер Яўтуховіч.

## У ЧЫКАГА...

У Праваслаўнай царкве сьв. Юр’я пасьля Літургіі і малебну за Беларускі Народ адбылася ўрачыстая акадэмія прысьвечаная 25 Сакавіку. Акадэмію вёў сп. Міхась Каленік — старшыня Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага. Прынагодны рэфэрат прачытаў пісьменьнік В. Нікіфаровіч. Выступала танцавальная група дзяцей “Лянок”. Праклямацыю з нагоды 25-га Сакавіка ад губернатара штату Іліной Джорджа Раяна прачытаў Ю. Каленік. Урачыстасьць пачалася адыграньнем амэрыканскага нацыянальнага гімну і закончылася адыграньнем беларускага нацыянальнага гімну, — “Мы выйдзем шчыльнымі радамі...”

* * *

Прыхаджане Беларускае Каталіцкае парафіі Хрыста Збаўцы (ўсходні абрад) у Чыкага, як заўсёды ўрачыста адзначылі дзень 25-га Сакавіка ў парафіяльнай залі. Прынагодны рэфэрат прачытаў паангельску і пабеларуску пісьменьнік Ванкарэм Нікіфаровіч. Чыталіся сьвяточныя прывітаньні ў тым ліку і Праклямацыя ад губернатара штату Д. Раена з нагоды 25-га Сакавіка. Вёў урачыстасьць сп. Нікадэм Жызьнеўскі. На ўрачыстасьці прысутнічаў пераехаўшы ў Амэрыку сп. Какубяка. Жанчыны падрыхтавалі багаты і смачны пачастунак.

* * *

## У ВАРШАВЕ...

З нагоды Дня Волі Беларусі — 25-га Сакавіка ля будынку беларускай амбасады ў Варшаве адбыўся пікет, ладжаны беларускімі студэнтамі. Паводле словаў аднаго з арганізатараў пікету, студэнта варшаўскае эканамічнае вучэльні П. Рахманава, “калі беларуская грамада ў Польшчы яшчэ не дасьпела да акцыяў, то гэта нічога ня значыць, сьвята і так трэба адзначаць”. Што да зьместу пікету, ніякіх зваротаў ані пэтыцыяў у амбасаду не перадавалася, паколькі ўдзельнікі акцыі ня лічаць цяперашнія ўлады Беларусі легітымнымі.

## 25-га Сакавіка ў Калінінградзе

25-га Сакавіка ў будынку старажытнага Кэнігсбергскага універсітэта а 15 гадзіне гімнам БНР на словы М.Краўцова адкрыўся ўрачысты сход, прысвечаны 83-яй гадавіне Дня Волі. Арганізатарам імпрэзы выступіла Калінінградскае рэгіянальнае аб’яднанне «Беларускае таварыства культуры».

Цікавым было выступленне выкладчыка Калінінградскага дзяржаўнага універсітэта гісторыка-беларуса А.Чумакова аб разбурэнні стэрэатыпаў савецкага часу ў выкладанні гісторыі славянскіх народаў у расійскіх ВНУ. Прысутных павіншаваў кіраўнік украінскай дыяспары прарэктар КДУ А. Касцюк.

Усе былі згодныя ў тым, што толькі ўласнымі сіламі мы зможам збудаваць «беларускі дом», і «архітэктурным праектам» гэтага дома стаўся Акт 25 Сакавіка...

# Ваяўнічы покліч дуды

**Юлія Андрэева**

Днямі ў Менску адбылася прэзэнтацыя новага музычнага альбому "Легенды Вялікага Княства". Гэта першы з абяцанай сэрыі дыскаў, у якіх мусіць ажыць слаўны дух беларускага Сярэднявечча й Рэнэсансу. Так ужо склалася ў нашай гісторыі й культуры, што залатая эра, пра якую трызьняць пакаленьні нашчадкаў, прыпала ў нас на XV-XVI стагодьдзі -- зорны час Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта тады расквітнелі беларускія гарады й шляхецкія сядзібы, дзе непадзельна гаспадарыла вытанчаная эўрапейская культура, а народнае жыцьцё аздобілася песьняю, якая не была ўжо прымітыўна-архаічнай часткай паганскага абраду, а сталася выразам вольнага народнага духу. Гэта быў зорны час беларускае волі й прыгажосьці -- зорны час беларускае духоўнае песьні й баляды.

Цяпер нам кажуць, што нашая памяць пра Вялікае Княства Літоўскае - гэта адное толькі легенда. Дый альбом называецца адпаведна -- "Лягенды Вялікага Княства". Аднак, патрымаўшы яго ў руках, пераконваешся ў надзвычайнай рэалістычнасьці нашага нацыянальнага міфу. Дый што можа быць больш рэальным за навюткі, беззаганна аздоблены кампакт-дыск? Так і хочацца як мага хутчэй паставіць яго ў плэер і паплысьці па хвалях новых музычных ураражаньняў.

Зрэшты, гэткая вандроўка наўрад ці вас расчаруе. Пяцьдзесят пяць хвілінаў і дваццаць шэсьць сэкундаў музыкі -- надта розны і нечаканы. Дзе яшчэ вы зможаце пачуць гукі старадаўняе ліры ці ваяўнічы покліч дуды - беларускае суродзічкі шатляндзкае "валынкі"? Ці мэлёдыю "Багародзіцы" - знакамітага рэлігійнага гімну пачатку XV стагодзьдзя, што сьпяваўся перад бітвамі й каранацыямі? Ці вясёлыя рытмы танцаў зь Ягелонскага рукапісу, які ў нас звычайна называюць "Полацкім сшыткам"? Дзіўна нават падумаць, што гэткія танцы былі ўлюбёнаю забаваю нашых продкаў. А побач - танцы зусім іншага кшталту, напісаныя майстравітаю рукою заежджага віртуоза, што ўладкаваўся на пасаду лютніста пры двары Жыгімонта II Аўгуста. Не абышлося й без сучасных песень, горш ці лепш стылізаваных пад старасьвецкае, у выкананьні гуртоў "Стары Ольса" й "Вялікае Княства".

Добра ўсё ж, што кампанаваньнем альбому займалася Арына Вячорка -- чалавек, адораны густам і пачуцьцём меры. Інакш яго зьмест наўрад ці аказаўся б аж такім разнастайным: і рок, і фольк, і амаль аўтэнтычная народная музыка, і эўрапейскае барока, і традыцыйныя гучаньні акадэмічных харавых калектываў, сярод якіх асабліва вылучаецца мужчынскі хор "Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева. У яговым выкананьні прагучалі дзьве песьні, адна зь іх -- "Бітва пад Воршай" -- абяцае стаць адным з галоўных хітоў гэтага альбому.

**RR:** - Скажыце, Кірыла, як Вы ўвогуле пачуваліся ў гэтым праекце, тут жа столькі ўсяго сабрана!

**К.Насаеў:** - Нармалёва, таму што для мяне гэта было ў пэўным сэнсе адкрыцьцё. Па-першае, шмат новай музыкі. Па-другое, я ўбачыў, што ў Беларусі існуе ўжо цэлы шэраг калектываў, якія працуюць у гэтым стылі.

**RR:** - А адкуль Вы ўзялі гэтую цудоўную песьню -- "Бітва пад Воршай"?

**К.Н.:** - Існуе два мэлядыйныя варыянты гэтай песьні. Я ўпэўнены ў тым, што й адна, і другая мэлёдыя не зьяўляецца аўтэнтычнай менавіта для гэтых словаў. Але ж тая мэлёдыя, якую выкарысталі мы, - вельмі старадаўняя, тэкст пад яе "падставіў" Мікола Куліковіч-Шчаглоў. А яму можна давараць.

Увогуле, у гэтым альбоме шмат песень, у якіх апяваецца беларуская вайсковая слава. Юр'еўская баляда "Юр'я й цмок", гістарычная песьня "Вайтоўна", паходная мэлёдыя "А дзе ж тыя ваяры?" -- усе яны заклікаюць да змаганьня за шчасьце й волю нашага народу. Быццам нашыя продкі з далёкай мінуўшчыны дадаюць нам імпэту ў нашай сёньняшняй барацьбе. А значыць, гісторыя Вялікага Княства працягваецца.

# З ДНЁМ НАРОДЗІНАЎ



Настаяцель праваслаўнай парафіі Яна Кранштацкага мітрафорны пратаерэй Анатоль Сегень — беларус з Беласточчыны — 18-га сакавіка зрабіў неспадзеўку Міхасю Белямуку. Падчас вынасу Сьвятых Дароў успамянуў Міхася і ягоную жонку Тамару.

У пропаведзі айцец Анатоль сказаў пра заслугі Белямука ў арганізацыі беларускае калёніі ды царкоўным жыцьці. “Дзякуючы намаганьням Міхася быў адроджаны крыж прэпадобнае Еўфрасіньні Полацкай, які ён фундаваў у 1960 годзе для царквы Жыровіцкае Божае Маці. Сёньня гэтай сьвятыні няма — прадалі сьвецкім людзям, а пратэстуючага Міхася ўладыка Мікалай экскамунікаваў. Міхась Белямук з нагоды 800-годзьдзя сьмерці сьв. Еўфрасіньні Полацкае за ўласныя грошы выдаў сярэбраную іконку Еўфрасіньні Полацкай”.

Таксама нагадаў айцец Анатоль, што Міхась дасьледуе беларускую геральдыку і сфрагістыку і мае апублікаваныя артыкулы. “За ўсё зробленае Міхасём — закончыў а. Анатоль, — яму належыцца пашана і падзяка”, і тут прыпаднёс вялікі кошык чырвоных ружаў.

Пасьля гэтага Міхасю адслужылі малебень і прасьпявалі многае лета. Айцец Анатоль запрасіў усіх прысутных у залю, дзе быў падрыхтаваны багаты абед з шампанскім і вялікім тортам.

Міхась Белямук, разчулены, сказаў, што першы раз за 50 год сустрэў шчырасьць, сардэчнасьць і ўдзячнасьць...

Валеры Баканаў і Пятро Новікаў.

**Агульна прынята Прэсу лічыць, як чацьвертую ступень улады, па ўладзе ўстаўадаўчай, выканаўчай і судовай...**

**Пра гэта трэба заўсёды памятаць і падтрымоўваць беларускамоўныя выданьні, яны дапамагаюць разьвіваць нашу мову і культуру...**

**КУРС ДОЛАРА**




## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ.

Мы атрымалі наступныя выданьні:

1. **Czasopis.** Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. №3. 2001, Беласток, 40 бач.

2. **Беларускія мастакі ў Замежжы.** Памятны альбом беларускага мастацтва і народных вырабаў, — у калёрах. Somerset, NJ. USA. 2001, 54 бач. Заказваць гэты вельмі прыгожы альбом можна па тэл. (732) 247-1822.

3. Arnold McMillin. **Belarusian Literature in the 1950s and 1960s,** Release and Renewal, Published by Boehlau Verlag Koeln-Weimar-Wien, 1999, 315 pp.